Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.



# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

12 чэрвеня 1928 году.
№ 6 (49).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
Менск—1928 г.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

12 чэрвеня 1928 году.

№ 6 (49).

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР

Менск—1928 г.

# ЗЬМЕСТ

*Частка афіцыйная.*

## *Частка неафіцыйная.*



---

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

ПРА МЯСЦЫ КАРЫСНЫХ ВЫКАПНЯЎ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ЗНАЧЭНЬНЯ.

На падставе арт. 19 Горнага Палажэньня Саюзу ССР (З. З. СССР 1927 г., № 68, арт. 688) Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе зацьвердзіць дадаены да гэтай пастановы сьпіс месц карысных выкапняў на тэрыторыі БССР, якія маюць рэспубліканскае значэньне і знаходзяцца пад выключным ведамам Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры Савеце Народных Камісараў БССР **М. Каркін.**

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

14 мая 1928 г.

---

Дадатак

СЬПІС

Месц карысных выкапняў на тэрыторыі БССР, якія маюць рэспубліканскае значэньне і знаходзяцца пад ведамам Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР для забясьпечаньня правільнага функцыянаваньня прамысловых прадпрыемстваў БССР.

| Назва выкапня | Назва месца | Мясцы і прыблізныя межы |
|---|---|---|
| 1. Кварцавы пясок і сукнавальныя гліны . | Парадзінскія вышыні. . | Каля в. Парадзіна Мсьціслаўскага раёну Аршанскай акругі на правым беразе р. Сож—200 гэктараў. |
| 2. Кварцавы пясок . . | „ | Паміж пасялішчамі Н. Беліца, хутар Самаволка Клімаўск. раёну Гомельскай акругі, раўналежна берагу р. Сож на самы Чарнігаў—350 гэктараў. |
| 3. — | — | Раён г. Гомеля, уроч. Манастырок на правым беразе р. Сож—60 гэктараў. |
| 4. — | — | Раён г. Гомеля, паміж Гомелем і вёскаю Прудок за старым зав. „Дзьвігацель Рэвалюцыі“, на правам беразе р. Сож—40 гэктараў. |

| | | |
|---|---|---|
| 5. Кварцавы пясок і крэйда . . . | — | Паміж в. в. Сябровічы—Бярдыж—хутар Іванаўка Чачэрскага раёну, Гомельскай акругі правы бераг р. Сож, даўжынёю каля 8 кілёмэтраў, плошчаю каля 850 гэктараў. |
| 6. — | — | Каля в. Бяседзкі Прудок, на правым беразе ўтоку р. Яленкі ў раку Бесядзь, прыбярэжная паласа шырынёю 4.500 мэтр. па правым беразе р. Бесядзь і р. Яленкі Бялынкавіцкага раёну, Магілеўскай акругі, даўжынёю 2 км. |
| 7 Горны кварцавы пясок. | — | Каля в. Мухаўка Магілеўскай акругі, правы бераг р. Бесядзь, прыбярэжная паласа шырынёю—500 мэтраў, даўжынёю 3 км. |
| 8. — | — | Каля мястэчка Канічы Бялынкавіцкага раёну, Магілеўскай акругі, па правым беразе р. Бесядзь, уніз па цячэньні да станцыі Бялынкавічы, шырыня паласы 500 мэтраў, даўжынёю каля 5 км. |
| 9. — | — | Каля р. Кубракоўка, Бялынкавіцкага раёну, Магілеўскай акругі па правым і левым беразе р. Бесядзь да вёскі Белая Дуброва, паласа шырынёю на 500 мэтр. ад мястэчка Бялынкавічы, усяго на працягу каля 10 км. па адным і другім беразе. |
| 10. Крэйда. | Крычаўскі зав. плаўлён. крэйды . . | Каля в. Варанёва, Крычаўскага раёну, Магілеўскай акругі правы бераг ракі Сож—25 гэкт. |
| 11. — | — | Каля ст. Койданава МББ чыгункі, каля фольварку Дзягільна 50 гэктараў. |
| 12. — | — | Каля ст. Фаніпаль МББ чыгункі, каля в. Палкава—50 гэктараў. |
| 13. — | — | Каля в. Балочышча Слуцкага раёну Менскай акругі—50 гэктараў. |
| 14. — | — | Паміж в. в. Юркавічы і Шэрсьцін Веткаўскага раёну Гомельскай акругі, правы бераг р. Сож—100 гэктараў. |
| 15. Крэйда. | Крэйдавая гара. . . | Каля в. Рэзанцы Мсьціслаўскага раёну Аршанскай акругі, левы бераг р. Вехры—200 гэкт. |
| 16. Гліны: агнятравалая, чарапічная, ганчарная і фарбавая. | Ляхава гара. | 19 кілёмэтраў на поўначы ад мястэчка Лоева Гомельскай акругі, правы бераг р. Дняпро—25 гэктараў. |
| 17. — | Шчыцэцкая гара . . | Каля в. Шчытцы Гомельскай акругі ў 5-7 км. на поўдзень ад мястэчка Лоева, правы бераг р. Дняпро—25 гэкт. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 18. | Маргелі і гліны—керамічныя, кахляныя, тэракатовыя і інш. . . | — | Радавішчы раёна Копысь Аршанскай акругі ў 20 кілёметр. на поўнач у кірунку на гор. Воршу і ў 20 кілём. на поўдзень ад мястэчка Копысь да мястэчка Шклоў, паласа шырынёю 1 кілём. на адзін і другі бок ракі Дняпро, ў 8 кілём. каля в. в. Леўкі, Лешчы Александраўскія хутары, Александрыя, Стайкі, Сьмятанка, Антонаўка і інш. |
| 19. | Вапняк і будаўнічыя гліны | Чартарыйскі роў. . . . | Аршанскай акругі, на правым беразе р. Дняпро, на поўдзень ад г. Воршы да чыгуначнага маста праз раку Дняпро, пры чыгунцы—плошча ў 50 гэктар. |
| 20. | Вапняк. . | — | Вёска Кабелякі ў 5 кілём. ад гораду Воршы на абодвых берагох р. Дняпро, каля чыгункі Ворша—Вунеча, паласа шырынёй 2 км. па 30 км. угору і ўніз ад в. Кабенякі. |
| 21. | Вапняк і ганчарныя гліны . . | Гара Крамянка. . . | Мястэчка Крычаў Крычыўскага раёну Магілеўскай акругі, па правым беразе ракі Сож, каля чыгуначнага маста, плошча 50 гэктар. |
| 22. | Даламіт. . | Х. Мочынск—Вапельня | У 3-4 кілём. ад ст. Дараганава, чыгункі Асіпавічы-Урэчча Асіпавіцкага раёну, Бабруйскай акругі, плошча 50 гэкт. |
| 23. | — | Ставішча. . | У 2 кілёметрах ад раз'езду Дзераўцы, плошча 10 гэктар. |
| 24. | Вапняк. . | — | Вярхоўскі вапняковы завод Белдзяржбуду Віцебскай акругі па р. Заходная, Дзьвіна, раён в. в. Верхаўё, Рубы, Падбярэзьзе, плошча 30 гэктар. |
| 25. | Цэмэнтавы мергель (крэйдавы і гліністы). | — | Каля в. Хведараўка і каля рэчкі Зубар у 3-х кілём. ад ст. Камунары, чыгункі Ворша—Вунеча (м. Касьцюковічы), плошча 600 гэкт. |
| 26. | — | — | Каля в. Боня, каля ст. Журбін, чыгункі Ворша—Вунеча, плошча ў 400 гэкт. |
| 27. | Пясок гутавы. . . | — | Бабруйскай акругі, Сьвіслацкага раёну, беспасрэдна каля гуты „Акцябрь" на правым беразе р. Бярэзіны, паміж ракой і дарогаю з Бабруйску на мястэчка Сьвіслач—30 гэкт. |
| 28. | — | — | Полацкай акругі, Краснапольскага раёну ў 2-х кілём. ад гуты „Труды", плошча каля 16 гэктар. |
| | — | — | Віцебскай акругі, Кузьнецкага раёну, пас. Ноўка, плошча каля 18 гэкт. |
| 30. | Пясок гутавы. . . | | Бабруйскай акругі, 3-4 в. ад пас. Глуша, плошча 6 гэкт. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 31. | — | — | Магілеўскай акругі, Быхаўскага раёну, ў 3-х кілёметр. ад пасёлку Вятр[illegible], плошча каля 10 гэктар. |
| 32. | Гліны будаўнічыя. | Волатяўскі спуск. | Каля г. Гомеля, плошча 30 гэктар. |
| 33. | — | — | Г. Віцебск, Сураскі тракт, плошча ад 8 да 10 гэктараў, каля цагельні Белдзяржбуду. |
| 34. | — | Уроч. Медзьвежына. | Заходні сэктар г. Менску, каля цагельні Белдзяржбуду, плошча 20-25 гэктар. |
| 35. | — | Уроч. Красава. | Паўднева-заходні сэктар г. Менску, каля цагельні Белдзяржбуду 8-10 гэкт. |
| 36. | — | Уроч. Студзёнка. | У 13 кілёмэтр. ад Барысава, каля цагельні Белдзяржбуду, плошча 10 гэкт. |
| 37. | — | Туркава, Пажынка і Сенажаткі. | Каля вес. Ніньні—Брылёў, каля Гомеля, плошча 20 гэктар. |
| 38. | — | Казацкае балота. | В. Ціцінка, каля г. Гомля, супроць кафлярнага заводу, каля 45 гэктар. |
| 39. | Горныя кварцавыя пяскі. | — | На правым беразе ракі Бесядзь у мястэчка Клімавічы Бялынкавіцкага раёну, Магілёўскай акругі, паласа шырынёю 500 метр., даўжынёю 2 кл., вышэй і ніжэй мястэчка Клімавічы. |

## 2. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

ПРА АБВЯШЧЭНЬНЕ СТАТУТУ САЮЗУ САМАТУЖНА-ПРАМЫСЛОВЫХ КАПЕРАТЫВАЎ.

Пры гэтым абвяшчаецца да ведама і кіраваньня статут саюзу саматужна-прамысловых капэратываў.

Саюзам прамысловай капярацыі прапануецца перайсьці на гэты статут на працягу двух месяцаў.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Нач. Адміністрацыйна-Гаспадарчага Кіраўніцтва ВСНГ БССР **А. Лучышын.**

8 мая 1928 г.
№ 137.

### СТАТУТ САЮЗУ САМАТУЖНА-ПРАМЫСЛОВЫХ КАПЕРАТЫВАЎ.

### Агульныя палажэньні.

1. На падставе існуючых законаў утвараецца саюз капэратываў з назваю ............ скарочана ............ з раёнам дзейнасьці ў граніцах ............ акругі. Кіраўніцтва саюзу знаходзіцца ў горадзе ............

*Увага.* Загатоўка сырцу і збыт вырабаў сваіх пайшчыкаў абмяжоўваецца памянёным вышэй раёнам дзейнасьці.

2. Мэтаю саюзу зьяўляецца дапамаганьне аб'яднаньню, разьвіцьцю, посьпехам і замацаваньню дзейнасьці каперацыйных аб'яднаньняў усіх відаў, што ўваходзяць у яго склад, устанаўленьню сталых зносін паміж імі і сумеснай іх дзейнасьці, а таксама арганізацыі новых каператываў саматужна-прамысловага тыпу.

3. Для дасягненьня паказанай у арт. 2 мэты, саюз можа:
а) складаць прадугледжаны гэтым статутам капіталы;
б) арганізоўваць закупку прадметаў і прадуктаў, патрэбных для ўзмацненьня ўсебаковага разьвіцьця саматужнага промыслу, перапрацоўваць і збываць прадукты вытворчасьці сваіх членаў, весьці гандлёва-пасярэдніцкія апарацыі на каперацыйных асновах для членаў саюзу;
в) набываць, арандаваць і арганізоўваць гаспадарчыя прадпрыемствы для патрэб членаў саюзу;
г) распаўсюджваць тэарытычныя і практычныя веды сярод сваіх членаў;
д) клапаціцца аб больш правільных спосабах вытворчасьці і мэтазгодным скарыстаньні саматужнікамі ўсіх магчымасьцяй пры іх промыслах;
е) адчыняць склады і магазыны ў раёнах, патрэбныя для лепшага абслугоўваньня сваіх членаў;
ж) прымаць уклады і рабіць пазычкі;
з) адпускаць грошы членам саюзу і рэгуляваць разьмяшчэньне вольных сродкаў, прымаць ад сваіх членаў на захаваньне і камісію усялякую маемасьць і дакумэнты, весьці карэспандэнцкія зносіны з усялякімі каператывамі, грамадзкімі і дзяржаўнымі ўстановамі;
і) арганізоўваць аглульна-карысныя ўстановы ўзаемадапамогі і інш. для патрэб саюзу і яго членаў;
к) выдаваць пэрыядычныя і інш. выданьні;
л) рабіць статыстычныя і ўсялякія інш. дасьледваньні, якія тычацца вывучэньня гаспадаркі раёну саюзу і пытаньняў капярацыі, і публікаваць іх вынікі;
м) склікаць зьезды, нарады каператываў па пытаньнях іх дзейнасьці і раместваў;
н) ажыцьцяўляць рэвізійна-інструктарскую дзейнасьць у дачыненьні да членаў саюзу;
о) адчыняць аддзяленьні і зносіцца з усялякімі грамадзкімі каперацыйнымі і дзяржаўнымі ўстановамі;
п) прымаць падрады і дастаўкі на вырабы сваіх членаў для дзяржаўных і інш. устаноў і арганізацый і прыватных асоб;
р) арганізоўваць, разьвіваць і яднаць культурна-асьветную дзейнасьць членаў саюзу і дапамагаць разьвіцьцю каперацыйнай справы наогул;
с) быць прадстаўніком ва ўсіх установах ад імя саматужна-прамысловых каператываў акругі;
т) абмяркоўваць у належных установах хадайніцтвы па справе саюзу і яго членаў;
у) усімі законнымі спосабамі набываць і адчужаць правы на маемасьці, рабіць усялякія дагаворы, у тым ліку аб заставе, будаўніцтве, забудоўцы, арэндзе прадпрыемстваў, зямельнай і інш. маемасьці, прававацца на судзе, выдаваць вэксалі і ўсялякія абавязацельствы і прымаць афяраваньні. Па сваіх абавязанасьцях саюз адказ-

вае ўсёю сваёю маемасьцю. Апроч таго, члены саюзу, калі нехапае маемасьці саюзу для задаволеньня яго крэдытаў, нясуць дадатковую адказнасьць, паводле арт. 16 гэтага статуту;

ф) ажыцьцяўляць іншыя пачынаньні і дзеяньні, якія вынікаюць з мэтаў саюзу, паказаных у арт. 2.

4. Саюз мае ўсе правы юрыдычнай асобы і ўваходзіць членам у іншыя каперацыйныя аб'яднаньні і іх саюзы.

5. Саюз мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

## VII. Склад саюзу, правы и абавязкі яго членаў.

6. Членамі саюзу могуць быць саматужна-прамысловыя т-вы (арцелі і крэдытна-прамысловыя т-вы), кіраўніцтвы якіх знаходзяцца ў раёне саюзу. Каперацыйныя арганізацыі іншых відаў, якія вядуць працу ў галіне саматужнай прамысловасьці, могуць быць членамі саюзу пры ўмове, што большасьць прадстаўленага ў саюзе каперававанага насельніцтва аб'ядналася прамысловымі арганізацыямі, якія ўваходзяць у саюз.

7. У склад саюзу ўваходзіць ня менш трох членаў.

8. Членаў у саюз прымае, па даручэньні сходу ўпаўнаважаных кіраўніцтва саюзу або кіраўніцтва разам з саветам, выключэньне з саюзу робіцца сходам упаўнаважаных па прапанове кіраўніцтва. Няпрынятая арганізацыя можа абскардзіць адмаўленьне аб яе прыняцьця на сходзе упаўнаважаных, які выносяць канчатковую пастанову.

9. Каператывы, якія жадаюць стаць членамі саюзу, даюць падпіску аб тым, што яны абавязваюцца дакладна выконваць статут саюзу, і прымаюць на сябе разам з іншымі членамі саюзу паказаную ў арт. 16 гэтага статуту адказнасьць па абавязнасьцях саюзу.

10. Той, хто ўваходзіць у саюз каператываў, адказвае і па тых абавязнасьцях саюзу, якія ўзьнiклі да ўваходу яго ў члены.

11. Каператыў можа вайсьці з саюзу па пісьмовай заяве, грунтуючыся на пастанове агульнага сходу сваіх членаў. Днём выхаду лічыцца апошні дзень аперацыйнага году, калі заява аб выхадзе пададзена была не пазьней трох месяцаў да сканчэньня гэтага аперацыйнага году і калі да канца яго ня лічыцца за каператывам ніякіх даўгоў і спагнаньняў.

12. Пастановаю савету, зацьверджанаю сходам упаўнаважаных могуць быць выключаны з саюзу тыя члены, якія нявыконваюць гэтага статуту парушылі свае абавязкі ў дачыненьні да саюзу і дзейнічаюць для шкоды саюзу.

Каператыў лічыцца выбыўшым з саюзу ад дня пастановы савету аб выключэньні яго.

13. Вышаўшы альбо выключаны з саюзу каператыў адказвае толькі за тыя страты саюзу, якія здарыліся і былі выяўлены да зацьверджаньня справаздачы саюзу за той год, у якім каператыў выбыў (арт. 11 гэтага статуту).

14. Выйшаўшы з саюзу каператыў можа быць прыняты зноў у звычайным парадкам; выключаны з саюзу каператыў прымаецца ў члены толькі пастановаю савету альбо сходу ўпаўнаважаных.

15. Вышаўшы з саюзу каператыў ня мае права ні на якую част- стку капіталу і маемасьці саюзу, апроч свайго паю.

16. Кожны член саюзу нясе дадатковую адказнасьць па справах саюзу ў павялічаным ня больш як у пяць разоў разьмеры ўстаноўленага паю.

17. Выбыўшы або выключаны з саюзу капэратыў прыцягваецца, нароўні з іншымі членамі саюзу, да папаўненьня страт саюзу за той апэрацыйны год, у якім капэратыў выбыў з складу саюзу.

Калі-ж выйшаўшы або выключаны член саюзу не ліквідаваў сваю задоўжанасьць саюзу, дык апошнім годам для папаўненьня страт лічыцца год поўнай ліквідацыі задоўжанасьці выбыўшым або выключаным.

18. Арганізацыі, якія ўваходзяць у саюз, на сходзе ўпаўнаважаных прадстаўляюць свае капэрацыйныя арганізацыі ў наступным парадку: арцелі пасылаюць аднаго ўпаўнаважанага на кожныя 25 чалав., пры гэтым ня поўныя 25 чал., але больш 12 чал., лічацца за 25 чал., арцелі, якія маюць да 12 чал., пасылаюць аднаго прадстаўніка, незалежна ад колькасьці членаў. Крэдытна-прамысловыя т-вы пасылаюць прадстаўніка на кожныя 500 чал., няпоўныя 500 чал., але больш 250 чал., лічацца за поўныя і пасылаюць ад гэтага ліку прадстаўніка. Т-вы, якія маюць менш 250 чал., пасылаюць аднаго прадстаўніка, незалежна ад колькасьці членаў.

Упаўнаважаны ня мае права перадаваць свайго голасу.

19. Члены саюзу павінны:

а) выконваць ўсе пастановы агульнага сходу ўпаўнаважаных саюзу, якія не супярэчыць закону і гэтаму статуту;

б) падаваць справаздачы аб дзейнасьці свайго капэратыву ў тэрмін і паводле форм вызначаных саюзам.

в) склікаць на прапанове кіраўінцтва саюзу надзвычайныя агульныя сходы ўпаўнаважаных капэратыву для абмеркаваньня паведамленьняў і прапаноў саюзу;

г) даваць кіраўніцтву саюзу і асобам на гэта ўпаўнаважаным кіраўніцтвам саюзу свае кнігі і дакумэнты для рэвізіі.

## III. Сродкі саюзу.

20. Сродкі саюзу складаюць асноўны і запасны капіталы. Апроч гэтага, саюзам могуць быць утвораны капіталы спэцыяльных прызначэньняў.

21. Асноўны капітал складаецца:

а) з паявых уносаў;

б) з адлічэньняў з чыстага прыбытку саюзу ў разьмеры ня менш 20 проц. яго;

в) з сум, атрыманых саюзам праз доўгатэрміновыя пазычкі;

г) з іншых паступленьняў, аднесеных у асноўны капітал.

Пазычаная частка асноўнага капіталу павінна паступова замяняцца ўласнымі сродкамі саюзу ў парадку і тэрміны, вызначаныя існуючымі законамі.

Уступны ўнос вызначаецца для арцеляй..........руб. з фізычнай асобы і для крэдытна-прамысловых т-ваў______кап. з фізычнай асобы.

Паявы ўнос членаў саюзу ўстанаўляецца для арцелі і крэдытна-прамысловага т-ва..........% ад сумы статутнага паявога капіталу.

Пай або ўносіцца поўнасьцю членам саюзу пры ўваходзе яго ў саюз, або складаецца паступова частковым ўносам, разьмеры і тэрміны якіх вызначаюцца сходам упаўнаважаных, або па яго даручэньні —кіраўніцтвам.

22. Калі выйдзе член з складу саюзу, то яму зварочваюцца зробленыя ўносы ў асноўны капітал, апроч страт, якія выпадаюць на яго долю, або-ж з прылічэньнем належачага яму прыбытку па

сканчэньні трох м-цаў пасьля зацьверджаньня сходам упаўнаважаных справаздачы за той аперацыйны год, на працягу якога ён выйшаў.

23. На паявыя ўносы членаў саюзу ня могуць накіроўвацца спагнаньні па іх даўгох.

24. Перадача паю адным членам саюзу другому дазваляецца толькі па згодзе з саюзам.

25. Запасны капітал складаецца:

а) з уступных уносаў членаў саюзу;

б) з штогадовых адлічэньняў з чыстага прыбытку саюзу ў размеры ня менш 20 проц. яго;

в) з процантаў на запасны капітал;

г) з іншых адлічэньняў паводле пастановы сходу ўпаўнаважаных.

Калі запасны капітал зраўняецца з паявою часткаю асноўнага капіталу, то далейшыя адлічэньні ў запасны капітал могуць пастановаю сходу ўпаўнаважаных спыняцца. Запасны капітал прызначаецца для папаўненьня магчымых страт.

Спосаб зьмяшчэньня запаснага капіталу, які забясьпечвае яго цэласьць, і рэалізацыі вызначаецца правіламі, устаноўленымі законам.

26. Саюзы ў абавязковым парадку ўтвараюць амартызацыйны фонд праз адлічэньні з чыстага прыбытку ня менш 5 проц.

27. Сход упаўнаважаных можа, апроч асноўнага і запаснага капіталу, утвараць асобныя капіталы з спэцыяльнымі прызначэньнямі.

Гэтыя капіталы складаюцца з вольнай часткі чыстага прыбытку, спэцыяльных пазычак у аддзельных асоб і ўстаноў і ўносаў членаў саюзу. Парадак ўтварэньня і выдаткаваньня асобных капіталаў зацьвярджаецца сходам упаўнаважаных.

28. Пастановаю сходу ўпанаважаных частка прыбытку можа быць разьмяркована прапарцыянальна паям членаў, прычым сума прыбытку, якая выдаецца на кожны пай, у процантавых адносінах да паю не павінна перавышаць падліковага проценту Дзяржаўнага Банку.

## V. Дзейнасьць саюзу.

29. Саюз можа весьці ўсе апярацыі, зьвязаныя з падняцьцем і палепшаньнем саматужна-прамысловай вытворчасьці раёну, а іменна: апярацыі па забясьпечаньні паказаных вытворчасьцяй, перапрацоўцы прадуктаў, а таксама гандлёва-пасрэдніцкія, камісійныя і фінансавыя апярацыі.

30. Саюз можа набываць і арганізоўваць розныя гаспадарчыя прадпрыемствы для патрэб членаў саюзу, прычым утварэньне і кіраваньне гэтымі прадпрыемствамі ў інтарэсах і па даручэньні часткі членаў саюзу ажыцьцяўляецца за кошт рызыкі апошніх.

31. Дзейнасьць саюзу (арт. 3 статуту) ажыцьцяўляецца парадкам паказаным сходам упаўнаважаных.

32. Сход упаўнаважаных дае агульныя паказаньні аб умовах і парадку рэвізійна-інструктарскай дзейнасьці і зацьвярджае наказы аб рэвізіі членаў саюзу.

33. Саюзныя капэратывы і тыя, якія ўваходзяць у саюз, павінны адчыніць асобе, што робіць рэвізію ад імя саюзу, усе свае кнігі і рахункі, дакумэнты і справаводзтва, а таксама дапушчаць да каштоўнасьцяй і маемасьці, якія належаць каперытыву і даручаны яму.

34. Кіраўніцтва саюзу дакладвае сходу ўпаўнаважаных адначасна з гадоваю справаздачаю агульны абгляд вынікаў рэвізійна-інструктарскай дзейнасьці саюзу на працягу справаздачнага году.

35. Усялякія гандлёва-пасрэдніцкія і камісійныя апарацыі, напрыклад: загатоўкі і закупкі, збыт, транспартаваньне, перапрацоўка матар'ялаў і паўфабрыкатаў і фінансавыя апарацыі, выдача пазычык, прыняцьце ўкладаў і заключэньне пазычак, саюз вядзе выключна ў інтарэсах сваіх членаў, а не пабочных для саюзу асоб і ўстаноў.

*Увага.* Фінансавыя апарацыі (пазыкі, уклады і інш.) вядуцца толькі сярод членаў саюзу.

36. Сход упаўнаважаных пастанаўляе, якія іменна гандлёва-пасрэдніцкія, камісійныя і фінансавыя апарацыі ён лічыць патрэбным дапусьціць з паказаньнем тых умоў, пры захаваньні якіх гэтыя апарацыі павінны весьціся.

## IV. Кіраваньне справамі саюзу.

37. Кіраваньне справамі саюзу ўскладаецца на кіраўніцтва, савет і сход упаўнаважаных. У члены кіраўніцтва, савету і рэвезыйнай камісіі ня могуць выбірацца асобы, якія не карыстаюцца выбарным правам у саветы.

### *Сход упаўнаважаных.*

38. Сход упаўнаважаных складаецца з прадстаўнікоў каператываў, якія выбіраюцца апошнімі на сваіх агульных сходах.

39. Члены савету, кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі, калі яны зьяўляюцца ўпаўнаважанымі, удзельнічаюць на сходах упаўнаважаных на роўных правох з іншымі, але без права пастаноўчага голасу пры разглядзе пытаньняў:

а) аб зацьверджаньні складзеных і правераных імі справаздач,

б) аб ацэнцы дзейнасьці кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі,

в) аб вызначэньні ім платы,

г) аб прыцягненьне іх да судовой адказнасьці.

40. У кампэтэнцыю сходу ўпаўнаважаных уваходзіць:

а) выбар членаў саюзу, кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі,

б) разгляд і зацьверджаньне інструкцыі для органаў кіраваньня і правіл па ўсіх відах апарацый і ўсіх галінах дзейнасьці саюзу,

в) разгляд і зацьверджаньне пляну дзейнасьці саюзу, гадовых каштарысаў і справаздач,

г) вызначэньне разьмеру працантаў за ўклады і пазычкі, а таксама вызначэньне разьмераў камісіі за пасрэдніцкія і камісійныя апарацыі саюзу.

*Увага.* Сход упаўнаважаных можа перадаць вызначэньне разьмеру працантаў за паказаныя вышэй апарацыі кіраўніцтву саюзу.

д) вызначэньне парадку платы ўносаў членамі саюзу для ўтварэньня і папаўненьня асноўнага і асобных капіталаў саюзу,

е) разьмеркаваньне прыбыткаў і страт,

ж) апрацоўка агульных паказаньня аб парадку і ўмовах рэвізійна-інструктарскай дзейнасьці саюзу, зацьверджаньне наказаў па рэвізіі каператываў усіх відаў, разгляд вынікаў рэвізіі і ўжыцьце захадаў, якія вынікаюць з рэвізіі,

з) выключэньне капаратываў з саюзу і прыняцьце їх зноў у члены саюзу (арт. арт. 8 і 12 гэтага статуту).

і) разгляд і зацьверджаньне правіл утварэньня і выдаткаваньня спэцыяльных капіталаў саюзу, апроч паказаных у арт. 27,

к) разгляд скарг на ўчынкі ўсіх органаў кіраваньня справамі саюзу,

л) вырашэньне пытаньняў аб зьмене і дапаўненьні статуту саюзу,

м) зьмена граніц раёну дзейнасьці саюзу,

н) вырашэньне пытаньняў аб спыненьні дзейнасьці саюзу,

о) зацьверджаньне правіл аб парадку адчыненьня і арганізацыі аддзяленьняў саюзу,

п) утварэньне камісій для распрацоўкі пытаньняў, якія тычыцца дзейнасьці саюзу,

р) вырашэньне ўсіх наогул пытаньняў і спраў, якія тычацца саюзу і перавышаюць паўнамоцтвы кіраўніцтва

41.Сходы ўпаўнаважаных склікаюцца кіраўніцтвам саюзу ня менш аднаго разу ў год, але не пазьней першага красавіка пасьля сканчэньня справаздачнага году. Апроч таго, сход упаўнаважаных можа склікацца, калі ёсць патрэба на гэта, пастановаю кіраўніцтва або па запатрабаваньні рэвізійнай камісіі, а таксама аднае пятай часткі членаў саюзу. Калі сход упаўнаважаных ня будзе склікан кіраўніцтвам на працягу двух тыдняў з часу заяўленьня аб тым адпаведнага патрабаваньня, то ён склікаецца рэвізійнаю камісіяю.

42. Парадак скліканьня сходу ўпаўнаважаных можа быць устаноўлены самім сходам ўпаўнаважаных саюзу, але ў кожным разе члены саюзу павінны быць паведамлены павесткамі не пазьней як за 10 дзён аб дні і месцы сходу упаўнаважаных. Таксама аб гэтым павінна быць вывешана кіраўніцтвам саюзу абвестка, у якой паказваюцца пытаньні, што будуць разглядацца сходам. Пры скліканьні чарговых сходаў справаздачы аб дзейнасьці саюзу за мінулы год з заключэньнем рэвізійнай камісіі павінны загадзя рассылацца членам саюзу.

43. Сход упаўнаважаных, калі выканаць ўсе правілы аб запрашэньні ўпаўнаважаных на сход, лічыцца адбыўшымся, калі на сходзе ўдзельнічаюць прадстаўнікі ня менш аднае трэцяе часткі членаў саюзу.

44. Калі ў дзень, назначаны для сходу ўпаўнаважаных, не зьбярэцца, паказаны ў арт. 43 статуту лік прадстаўнікоў членаў саюзу, дык для вырашэньня пытаньняў, пастаўленых на павестцы дня гэтага сходу, назначаецца не пазьней двух тыдняў другі сход упаўнаважаных, які прызнаецца адбыўшымся, колькі-б членаў саюзу на ім ня было прадстаўлена.

45. Сход адчыняецца старшынёю кіраўніцтва, потым-жа выбіраецца старшыня і сакратар для вядзеньня сходу.

46. Пастановы прымаюцца сходам упаўнаважаных звычайнаю большасьцю галасоў. Пастанова аб спыненьні існаваньня саюзу, аб зьмене статуту і аб выключэньні членаў саюзу павінна быць прыняты ня менш, як двума трэцямі галасоў.

Для спыненьня дзейнасьці саюзу трэба, апроч таго, каб пастанова аб гэтым была зацьверджана большасьцю двух трэціх частак галасоў яб'ядананьняў, што ўваходзяць у склад саюзу, на скліканым у другі раз для гэтага сходзе ня менш як праз месяц і ня больш як праз год пасьля першай пастановы.

*Увага.* Службовыя асобы выбіраюцца адчыненым галасаваньнем.

47. Калі на сходзе ўпаўнаважаных будзе роўны лік галасоў, то пытаньне лічыцца невырашаным.

48. Пастановы сходаў упаўнаважаных запісваюцца ў асобную кнігу, падпісваюцца старшынёю сходу, членамі кіраўніцтва і ня менш трыма ўпаўнаважанымі.

49. Да пратаколу дадаецца сьпіс усіх упаўнаважаных, што прыбылі на сход, падпісаны старшынёю сходу і членамі кіраўніцтва саюзу.

50. Старшыня сходу сочыць за тым, каб усе пастановы сходу выносіліся і пытаньні вырашаліся пры ўдзеле прадстаўнікоў паказаных у арт. арт. 43 і 46 членаў саюзу. Зачыненьне сходу з прычыны адсутнасьці на ім прадстаўнікоў часткі членаў, паказаных у статуце, не пазбаўляе сілы законных пастаноў сходу.

## *Б. Савет.*

51. Савет наглядае за выкананьнем кіраўніцтвам статуту, законаў, інструкцый і законных пастаноў сходу ўпаўнаважаных. Для гэтай мэты савету павінны быць адчынены: каса, усё рахункаводзтва і справаводзтва саюзу.

52. У паасобку на савет ускладаецца:

а) папярэдні разгляд правіл і дакладаў, якія праектуюцца кіраўніцтвам, і дача па іх заключэньняў сходу ўпаўнаважаных,

б) папярэдняе абмеркаваньне пытаньняў аб зьмене статуту саюзу,

в) прыйманьне каперацыйных аб'яднаньняў у члены саюзу і выключэньне з яго паводле арт. арт. 8 і 12 гэтага статуту.

53. Скаргі на савет падаюцца сходу ўпаўнаважавых праз савет, які падае іх на разгляд бліжэйшага сходу ўпаўнаважаных з сваімі тлумачэньнямі.

54. Арт. арт. 59, 60 і 61 гэтага статуту тычыцца і савету.

## *Кіраўніцтва.*

55. Кіраўніцтва вядзе ўсе справы саюзу і прадстаўляе саюз без асобнай на гэта даверанасьці па ўсіх яго справах і зносінах з асобамі і ўстановамі. Больш падрабязна абавязкі кіраўніцтва і паасобных яго членаў і парадак іх дзейнасьці вызначаюцца інструкцыяю, якая зацьвярджаецца і зьмяняецца сходам упаўнаважаных.

56. У паасобку на кіраўніцтва ўскладаецца:

а) складаньне правіл і інструкцый па розных галінах дзейнасьці саюзу і ўнясеньне іх для вырашэньня сходу ўпаўнаважаных,

б) вядзеньне ўсіх уласьцівых саюзу дзеяньняў паводле гэтага статуту і зацьверджаных сходам упаўнаважаных правіл,

в) прыйманьне і выдача грошай і захаваньне грошай, каштоўнасьцяй і маемасьці, якія належаць саюзу і даручаны яму,

г) выдача ўсялякіх грашовых абавязнасьцяй у межах, устаноўленых сходам ўпаўнаважаных,

д) заключэньне ад імя саюзу дагавораў,

е) выдача даверанасьцяй асобам, якія знаходзяцца на службе ў саюзе,

ж) найманьне служачых саюзу і звальненьне іх з усімі абмежаваньнямі, якія могуць быць устаноўлены ў гэтых адносінах сходамі ўпаўнаважаных,

з) утварэньне асобных камісій тады, калі гэта права дадзена кіраўніцтву сходам упаўнаважаных,

і) вядзеньне рахункаводзтва і справаводзтва саюзу,

к) складаньне гадовай справаздачы і падачы яе сходу ўпаўнаважаных для зацьверджаньня,

л) вядзеньне сьпісаў членаў саюзу, паказваючы разьмер паявых уносаў, адказнасьць па абавязнасьцях саюзу і абавязковыя пазычкі ў сваіх членаў,

м) іншыя абавязкі, якія асобна паказаны у гэтым статуце і вынікаюць з сутнасьці статуту.

57. Кіраўніцтва складаецца ня менш як з трох членаў, якія выбіраюцца сходам упаўнаважаных на адзін год. Да іх павінна быць выбрана ня менш двух кандыдатаў для часовага замяшчэньня адсутных або выйшаўшых членаў кіраўніцтва.

58. У кіраўніцтва ня могуць уваходзіць кроўныя і сваякі да другога спарадненьня ўключна.

59. Кіраўніцтва выбірае з свайго складу старшыню кіраўніцтва і яго намесьніка і разьмяркоўвае паміж сваіх членаў абавязкі.

60. Пасяджэньні кіраўніцтва прызнаюцца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае ня менш паловы членаў кіраўніцтва, у тым ліку старшыня або яго намесьнік.

61. Справы кіраўніцтва вырашаюцца простаю большасьцю галасоў. Голас старшыні, калі голасоў роўна, дае перавагу.

62. Даверанасьці, дагаворы, ўмовы і іншыя акты, а таксама патрабаваньні на атрыманьне сум саюзу з крэдытных установ павінны падпісвацца старшынёю кіраўніцтва або яго намесьнікам і, апроч таго, адным з членаў кіраўніцтва.

63. Сход упаўнаважаных можа ўстанавіць для членаў кіраўніцтва плату за іх працу.

64. Члены кіраўніцтва могуць быць пастановаю сходу упаўнаважаных скінуты з пасады да тэрміну, на які яны выбраны.

65. За страты, зробленыя саюзу няправільнымі дзеяньнямі або недаглядам, члены кіраўніцтва адказваюць усёю сваю маемасьцю супольна, незалежна ад гэтага яны, калі ёсьць падставы, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

66. Скаргі на кіраўніцтва падаюцца сходу ўпаўнаважаных, але ня іначай, як праз савет, які павінен падаць іх бліжэйшаму агульнаму сходу упаўнаважаных з сваімі заключэньнямі.

## *X. Рэвізійная камісія*

67. Рэвізійная камісія складаецца ня менш як з трох членаў і двух кандыдатаў, выбраных агульным сходам упаўнаважаных на адзін год з членаў саюзных капэратываў, якія не ўваходзяць у склад кіраўніцтва і савету.

68. Арт. арт. 57, 58, 59, 60 і 61 гэтага статуту ўжываюцца і да членаў рэвізійнай камісіі. Членамі рэвізійнай камісіі ня могуць быць сваякі членаў кіраўніцтва.

69. На рэвізійную камісію ўскладаецца: а) вядзеньне ня менш аднаго разу ў год і апроч таго, калі трэба, рэвізіі маемасьці, касы, гадовай справаздачы і ўсяе наогул дзейнасьці саюзу; б) дача сходу ўпаўнаважаных заключэньняў па гадовай справаздачы, а таксама і аб рэвізіі на працягу ўсяго году.

70. Скаргі на рэвізійную камісію падаюцца сходу ўпаўнаважаных, але ня іначай, як праз камісію, якая павінна падаць іх бліжэйшаму агульнаму сходу упаўнаважаных з сваім заключэньнем.

## VI. Рахункаводзтва і справаздачнасьць.

71. У саюзе абавязкова вядуцца кнігі, у якія запісваюцца:
а) агульны прыход і расход па ўсіх зваротах саюзу, б) прыход і расход асобна на кожны від звароту саюзу, в) рахункі саюзу з кожнаю аддзельнаю асобаю і ўстановаю.

72. За кожны мінулы год складаецца кіраўніцтвам падрабязная гадовая справаздача аб апярацыях саюзу і балянсе яго зваротаў, а таксама каштарыс і плян дзейнасьці, якія падаюцца на разгляд і зацьверджаньне сходу упаўнаважаных пасьля праверкі іх рэвізійнаю камісіяю.

73. Справаздачны год саюзу лічыцца з 1-га кастрычніка да 30 верасьня; калі-ж саюз пачаў сваю дзейнасьць ў працягу году, то справаздачны год лічыцца ад дня распачацьця дзейнасьці да 30 верасьня бягучага году.

74. Справаздача павінна быць складзена і падпісана членамі кіраўніцтва і рэвізійнаю камісіяю не пазьней 1-га красавіка наступнага году, але не пазьней як за два тыдні да сходу упаўнаважаных. На працягу гэтых 2 тыдняў справаздача павінна быць ў пэўныя гадзіны адчынена ў памяшканьні кіраўніцтва для агляду упаўнаважаных.

## VII. Прыбытак і страты.

75. Чысты прыбытак, пасьля адлічэньня ад яго ўстаноўленай сходам упаўнаважаных часткі ў запасны, асноўны і амартызацыйны капітал, разьмяркоўваецца сходам упаўнаважаных. З рэшты сход можа вярнуць членам сумы, унесеныя імі на папаўненьня страт саюзу за мінулыя гады, можа папоўніць асноўны капітал, адлічыць на ўтварэньне спэцыяльных капіталаў, паказаных у арт. 27, а таксама на грамадзкія і каперацыйныя мэты.

76. Страта па зваротах саюзу папаўняецца з запаснага капіталу. Калі страта гэткім чынам ня будзе папоўнена, то сход упаўнаважаных можа разьмеркаваць нехапаючую суму паміж усімі членамі прапарцыянальна суме звароту кожнага з іх у працягу справаздачнага году, прычым агульная сума, якую павінен заплаціць кожны член саюзу для папаўненьня страт бягучага аперацыйнага году, ня можа перавышаць агульнай адказнасьці гэтага члена па справах саюзу. Для выплаты кожным сваe часткі назначаецца тэрмін не далей канца году. Калі ня будзе заплачана належачая па разьмеркаваньні сума, то яна спаганяецца праз суд. Тое, што не магло быць спагнана на працягу году з якога-небудзь члена саюзу разьмяркоўваецца такім самым парадкам і спаганяецца кіраўніцтвам з іншых членаў, незалежна ад паказаных правіл. Страта, якая здарылася ад няправільных дзеяньняў альбо недагляду членаў кіраўніцтва і савету, павінна быць папоўнена імі. Грошы, што ўносяцца імі, ідуць на папаўненьне капіталаў, з якіх страта сьпісана імі ў зварот каператывам, якія плацілі што-небудзь паводле паказаных вышэй правіл.

*Увага.* Выплаты па сьпісаных на страту пазычках могуцьісьці на ўтварэньне спэцыяльных капіталаў для звароту членам

саюзу ўносаў, зробленых паводле арт. 27. Такое—ж прызначаньне могуць мець выплаты па зацягнуўшыхся спагнаньнях разьмяркованых сходам ўпаўнаважаных страт.

## XIII. Ліквідацыя, аб'яднаньне і падзел саюзу.

77. Саюз спыняе сваю дзейнасьць:

а) калі ён не распачаў свае дзейнасьці на працягу трох месяцаў з моманту рэгістрацыі. Орган, які зарэгістраваў саюз, павінен выключыць яго з рээстру, а закладчыкі павінны апублікаваць ў мясцовым афіцыйным органе дууку аб тым, што саюз не дзейнічаў, і падаць статут у орган, што зарэгістраваў яго;

б) паводле палажэньня аб спыненьні каперацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, аб'яднаньні і падзеле, зацьверджанага пастановай ЦВК і СНК СССР за 15 чэрвеня 1927 г.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### ПРА АПЛАТУ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ ДАГАВОРАЎ АБ ПРАВЕ ЗАБУДОЎКІ І ДАГАВОРАЎ МАЕМАСНАГА НАЙМАНЬНЯ.

*Усім акруговым судом, акруговым фінансавым аддзелам і натарыяльным канторам.*

I. З атрыманых зьвестак відаць, што на мясцох узьніклі пытаньні аб вызначэньні сумы і аб парадку аплаты гэрбавым зборам дагавораў найманьня маемасьці на тэрмін больш, як на адзін год, і аб праве забудоўкі.

Для ўстанаўленьня аднастайнай практыкі аплаты гэрбавым зборам паказаных вышэй дагавораў, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў прапануюць кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Дагаворы арэнды маемасьці на падставе § 15 сьпісу дакумэнтаў, якія павінны аплачвацца гэрбавым зборам, аплачваюцца прапарцыянальным гэрбавым зборам, пры чым для аплаты дакумэнтаў па гэткіх дагаворах сума дакумэнту вылічаецца на падставе правілаў арт. 17 статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы (З. З. СССР 1927 г., № 55, арт. 552), а таксама § 8 інструкцыі НКФ СССР за 17 кастрычніка 1927 г. да статуту пра дзяржаўны гэрбавы збор („Известия НКФ“ № 3).

Паводле гэтых правілаў, у суму дакумантаў па гэткіх дагаворах, апроч выгаварданых выплат, уваходзяць:

а) кошт абумоўленага дагаворам капітальнага рамонту будынкаў, калі пры заключэньні дагавору вызначана сума рамонту;

б) кошт абумоўленых дагаворам будынкаў і іншы пабудоў, а таксама абсталяваньня памяшканьняў, калі будынкі, пабудовы і абсталяваньне па дагавору павінны быць пераданы пасьля сканчэньня дагавору ўласьніку маемасьці без аплаты арандатару. Пры гэтым кошт усіх пералічаных у п. „б“ пабудоў вызначаецца пры заключэньні дагавору на падставе каштарысу.

2. Што-ж тычыцца дагавораў аб перадачы пляцоў зямлі пад забудоўку, то *іх трэба прызнаць ня маючымі грашовай ацэнкі, бо*

а) паводле арт. 2 правілаў спагнаньня рэнты з гарадзкіх зямель (З. З. СССР 1927 г., № 48, арт. 494) у такіх выпадках ня можа быць устаноўлена арэндная плата, а таксама

б) паводле арт. 85 Грамадзянскага Кодэксу ў рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 26 красавіка 1928 г. (газэта „Савецкая Беларусь“ за 1928 г., № 101) пабудаваныя забудоўшчыкамі на пляцы будынкі перадаюцца органу, здаўшаму пляц, за плату, якою папаўняюцца затраты забудоўшчыка і на пабудаваньне і на капітальны рамонт, і значыцца забудоўшчык ня плаціць нічога за права забудоўкі органу, які здаў пляц.

Таму і бяручы пад увагу, што § 15 сьпісу дакумэнтаў, якія павінны аплачвацца гэрбавым зборам, прадугледжвае толькі прапарцыянальны збор з дагавораў пра набываньне права забудоўкі, трэба лічыць, што *такі збор ня можа спаганяцца з дагавораў аб праве забудоўкі, якія заключаюцца на падставе ГК БССР,* як ня маючых грашовай ацэнкі і таму не прадугледжаных сьпісам.

II. З часу выданьня гэтага абежніку касуецца абежнік НКЮ і НКФ за 2 лютага 1927 г. аб размеры гэрбавага збору і платы за натарыяльныя дзеяньні пры пасьведчаньні дагавораў аб праве забудоўкі, калі па дагавору забудоўшчык павінен плаціць толькі арэндную плату ў разьмеры ставак зямельнай рэнты. (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 5).

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

17 мая 1928 г.

---

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎЖЫВАНЬНЕ ПАСТАНОВЫ ЦВК і СНК СССР ЗА 14 СТУДЗЕНЯ 1927 г. „ПРА СЛУЖБОВЫЯ КАМАНДЫРОЎКІ Ў МЕЖАХ СССР.

Для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Пра службовыя камандыроўкі ў межах СССР“ (З. З. СССР 1927 г., № 4, арт. 42) і на падставе пастановы СНК БССР за 30 студзеня 1928 г. (прат. распарадчага пасяджэньня № 36, арт. 451) Народны Камісарыят Працы БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Службоваю камандыроўкаю зьяўляецца паездка работніка па загаду наймальніка для выкананьня службовага даручэньня па-за месцам сталай работы.

2. Пастанова ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Пра службовыя камандыроўкі ў межах СССР“ і гэта інструкцыя пашыраецца на ўсе камандыроўкі, апроч камандыровак, паказаных ва ўвагах да арт. 1-га паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК СССР.

3. Умовы аплаты рабочым і служачым выдаткаў, зьвязаных з камандыроўкамі для навуковага ўдасканаленьня, на курсы, а таксама камандыроўкі ў экспэдыцыі вызначаюцца паводле палажэньняў, якія выдаюцца адпаведнымі ўстановамі, а калі няма іх—па згодзе з камандыраваным.

Разьмер аплаты паказаных выдаткаў пры камандыроўках на курсы, што арганізуюцца ўстановамі па перанавучаньні і падвышэньні кваліфікацыі вызначаецца палажэньнем аб курсах альбо спэцыяльнаю ўмоваю.

*Увага.* Прадугледжаныя гэтым арт. выплаты ўстанаўляюцца асобна ад заработнай платы і не бяруцца пад увагу пры

выплатах, зьвязаных з разьмерам заработнай платы (кампэнсацыя, сацыяльнае страхаваньне, адлічэньні ў прафэсіянальны саюз і інш).

4. Парадак паездкі ў камандыроўку і парадак выкананьня камандыраваным службовага даручэньня ўстанаўляецца асобаю, якая дае даручэньне камандыраванаму.

5. Пры ад'езьдзе ў камандыроўку, камандыраванаму павінен быць выдадзен аванс, разьмер якога вызначаецца ў залежнасьці ад адлегласьці, даўжыні камандыроўкі, сродкаў пераезду і іншых умоў камандыроўкі.

6. Выкананьне даручэньня ў камандыроўцы, а таксама адзнакі аб выезьдзе, прыезьдзе і рэгістраваньне камандыраваных афармляюцца парадкам, устаноўленым у прадпрыемстве альбо ўстанове.

7. Для накіраваньня ў камандыроўку не патрэбна згода камандыраванага тады, калі выкананьне даручэньня ўваходзіць у абсяг абавязкаў камандыраванага; адмаўленьне ад камандыроўкі, якое ня выклікана важнымі прычынамі (хвароба работніка альбо членаў яго сям'і), зьяўляецца нарушэньнем абавязкаў і можа выклікаць дысцыплінарнае пакараньне ва ўстаноўленым парадку.

8. Ня лічацца камандыроўкамі наступныя катэгорыі службовых паездак:

а) паездка работнікаў, служба якіх па характару працы адбываецца ў дарозе і зьвязана з чыгуначным альбо водным транспартам, а іменна: правозных і паяздных брыгад, асоб, якія перавозяць пошту;

б) паездкі работнікаў, служба якіх мае выключна разьезны характар, незалежна ад таго, абмяжованы разьезды, альбо не, напрыклад, разьезныя агэнты для закупкі сырцу і інш.;

в) паездкі работнікаў, якія выяжджаюць самастойна без асобнага распараджэньня наймальніка ў зьвязку з іх службовымі абавязкамі, у межы раёну, што абслугоўваецца імі, напрыклад: выезды на раён альбо вучастак інструктароў, вучастковых лекараў і інш. Выдаткі, зьвязаныя з разьездамі, паказанымі ў п. п „а", „б" і „в" гэтага арт., выплачваюцца паводле ўмоў, прадугледжаных калектыўнымі альбо працоўнымі дагаворамі, прычым аплата паказаных выдаткаў дапушчаецца ў форме вызначанай загадзя сумы за пэўны пэрыад.

У такім самым парадку ўстанаўляецца і разьмер сутачных (арт. 8 пастановы ЦВК і СНК СССР).

*Увага* 1. Калі паказаныя вышэй пытаньні не прадугледжаны адпаведнаю ўмоваю і згода з камандыраваным не дасягнута, то спрэчка вырашаецца ў канфліктным альбо судовым парадку.

*Увага* 2. Недасягненьне згоды па пытаньні аб аплаце камандыроўкі ня можа быць падставаю для адмаўленьня работніка ад выезду ў камандыроўкі па справах, якія ўваходзяць у абсяг яго абавязкаў.

9. У асобныя выдаткі камандыраванага, для аплаты якіх выдаюцца сутачныя (арт. 11 пастановы ЦВК і СНК СССР), уключаюцца ўсе дадатковыя выдаткі пры разьездах, у тым ліку аплата фурманак і інш.

*Увага* 1. Калі фурманкі альбо іншыя способы пераездаў замяняюць сабою чугуначныя альбо водныя зносіны, напрыклад, пераезды з аднаго залюднёнага пункту ў другі, то выдаткі на гэтую мэту аплачваюцца камандыраваным установаю, паводле п. „в“ арт. 5 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР.

*Увага* 2. Выдаткі, зьвязаныя з выкананьнем камандыраваным ускладзеных на яго даручэньняў (пасылка тэлеграм, перавозка начыньня і інш.), аплачваюцца наймальнікам на агульных падставах па іх сапраўднаму кошту.

10. Разьмер заработку, які захоўваецца за камандыраваным (арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР), вызначаецца паводле пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 17 чэрвеня 1924 г. № 268/426 „О порядке исчисления среднего заработка“ („Известия НКТ“ 1924 г. № 25-26).

11. Прадугледжаны арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР разьмер сутачных выплачваецца незалежна ад таго, да якога тарыфнага поясу належыць мясцовасьць, у якую накіраваны камандыраваны.

12. Тэрмін знаходжаньня ў камандыроўцы (арт. 3 пастановы ЦВК і СНК СССР) вылічаецца з моманту ад‘езду камандыраванага (з прадпрыемства альбо з дому) і да моманту звароту (у прадпрыемства альбо дамоў); пры аплаце трэба лічыць кожны каляндарны дзень, праведзены ў камандыроўцы, не выключаючы дзён адпачынку і сьвяточных дзён; дзень выезду ў камандыроўку і дзень прыезду лічацца за адзін дзень.

13. Выдаткі на найманьне памяшканьня, прадугледжаныя арт. 4 пастановы ЦВК і СНК СССР, камандыраваны не апраўдвае дакумэнтамі.

14. Мясцовымі камандыроўкамі (арт. 6 пастановы ЦВК і СНК СССР) зьяўляюцца камандыроўкі, калі камандыраваны па ўмовах зносін мае магчымасьць зьвярнуцца ў месца свайго жыцьця ў адныя суткі з моманту ад‘езду і калі выкананьне ўскладзенага на яго службовага даручэньня не патрабуе больш доўгага бязупыннага знаходжаньня камандыраванага, а таксама камандыроўкі ў межах гораду, мястэчка і сельскага савету незалежна ад іх даўжыні. Пры такіх камандыроўках праезд аплачваецца па фактычнаму кошту.

*Увага*. Калі камандыроўка, паказаная ў гэтым арт., зьвязана з начлегам, то камандыраваны мае права на аплату выдаткаў на найманьне памяшканьня.

15. Пры камандыроўках, прадугледжаных арт. 8 пастановы ЦВК і СНК СССР, мінімальны разьмер сутачных—1 р. 25 кап.

16. За камандыраванымі рабочымі і служачымі захоўваецца на ўвесь час камандыроўкі іх пасада. Асобы, што знаходзяцца ў камандыроўцы, могуць звальняцца толькі тады, калі ўстанова альбо прадпрыемства, у якім камандыраваны працуе, ліквідуецца, пры гэтым разрахунак з камандыраваным павінен быць зроблены па дзень звароту з камандыроўкі.

17. Калі камандыраваны захварэе ў час знаходжаньня яго ў камандыроўцы (арт. 9 пастановы ЦВК і СНК СССР), то замест заработнай платы па месцы працы ён атрымоўвае за час хваробы з страхавой касы дапамогу па часовай непрацаздольнасьці на агульных падставах.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена
з ЦСПСБ—Заг. Тарыфна-Эканам. Аддзелу—**Розін.**
з НК Фінансаў БССР—Нам. Народнага Камісара Фінансаў **Л. Бунін.**
з НКЮ БССР—Нам. Народнага Камісара Юстыцыі—**С. Гохман.**

30 красавіка 1928 г.
№ 31.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА СКАСАВАНЬНЕ СВАІХ АБЕЖНІКАЎ, ПАСТАНОЎ І ЗАГАДАЎ ПА ПЫТАНЬНЯХ ПРАЦЫ, ВЫДАНЫХ ДА 1 СТУДЗЕНЯ 1928 г., ЯКІЯ ФАРМАЛЬНА НЕ СКАСАВАНЫ, АЛЕ ПА СУТНАСЬЦІ СТРАЦІЛІ ЗНАЧЭНЬНЕ, АЛЬБО З ПРЫЧЫНЫ ВЫДАНЬНЯ НОВЫХ ЗАКОНАЎ СТРАЦІЛІ СІЛУ.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе скасаваць наступныя свае абежнікі, пастановы і загады па пытаньнях працы, выданыя да 1-га студзеня 1928 г., якія фармальна не скасаваны, але па сутнасьці страцілі значэньне, альбо з прычыны выданьня новых законаў страцілі сілу:

### За 1922 год.

1. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 21 студзеня 1922 г. „Пра парадак найманьня рабочых і служачых“ (З.З. БССР 1922 г. № 1, арт. 11).

### За 1923 год.

2. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 студзеня 1923 г. „Пра забарону звальняць падлеткаў без дазволу Інспэкцыі Працы“.

3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 8 мая 1923 г. „Пра выплату кампэнсацыі рабочым і служачым, якія не скарысталі чарговы водпуск“.

4. Пастанова Народнага Комісарыяту Працы БССР за 10 красавіка 1923 г. „Пра рэгістрацыю няшчасных выпадкаў у прадпрыемствах“.

5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 20 мая 1923 г. „Пра рабочы дзень падлеткаў“.

6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 1 чэрвеня 1923 г. „Пра рэгістрацыю грузапад‘емных мэханізмаў“.

7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 кастрычніка 1923 г. „Пра справаздачнасьць дзяржаўных і каперацыйных установаў і прадпрыемстваў па заработнай плаце“ (З.З. БССР 1923 г. № 17, арт. 161).

8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 17 кастрычніка 1923 г. „Пра кантроль за выплатаю заработнай платы па максімальных стаўках“ (З.З. БССР 1923 г., №17, арт. 162).

9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 5 лістапада 1923 г. „Пра бесперашкоднае дапушчэньне работнікаў страхавых органаў да высьвятленьня на месцы правільнасьці вылічэньня страхавых уносаў“ (З.З. БССР 1923 г. № 17, арт. 163).

10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 25 лістапада 1923 г. „Пра заработную плату рабочым і служачым, якія бяруцца ў пераменны склад тэрытарыяльных часьцей“ (З.З. БССР 1924 г. № 1, арт. 9).

11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 28 сьнежня 1923 г. „Пра парадак падліку паравых катлоў і ўстановак“. (З.З. БССР 1923 г., № 2, арт. 21).

12. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 28 сьнежня 1923 г. „Пра разьліковыя кніжкі“ (З.З. БССР 1924 г. № 2, арт. 22).

## За 1924 год.

13. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 5 сакавіка 1924 г. „Пра абавязковае вядзеньне ў прадпрыемствах, установах і гаспадарках кніг, зьвязаных з правядзеньнем заканадаўства аб працы“ (З. З. БССР 1924 г. № 47, арт. 89).

14. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 5 сакавіка 1924 г. „Пра недапушчэньне жанчын да начной працы“.

15. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 красавіка 1924 г. „Пра рэгістрацыю грузапад'емных мэханізмаў“

16. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 28 красавіка 1924 г. „Пра пералік пасад, замяшчэньне якіх дапушчаецца у парадку наступнай рэгістрацыі“ (З.З. БССР 1924 г., № 6-7, арт. 87.)

17. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 красавіка 1924 г. „Пра ўмовы працы на будаўнічых работах“ (З.З. БССР 1924 г. № 6-7, арт. 88).

18. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 мая 1924 г. „Пра правы рабочых і служачых, якія бяруцца ў пераменны склад тэрытарыяльных часьцей альбо бяруцца на дапрызыўную падрыхтоўку“ (З.З. БССР 1924 г., № 6-7, арт. 90).

19. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 чэрвеня 1924 г. „Пра дадатковыя адпускі рабочым і служачым на шкодных вытворчасьцях“.

20. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 чэрвеня 1924 г. „Пра змаганьне з звышмернаю працаю“.

21. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 чэрвеня 1924 г. „Пра папярэдні нагляд“.

22. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 мая 1924 году „Пра парадак правядзеньня льготнага і карацельнага тарыфу па сацыяльным страхаваньні“.

23. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 26 сьнежня 1924 г. „Пра рабочы дзень служачых складаў і гандлёвых прадпрыемстваў і служачых, работа якіх зьвязана з вытворчасьцю“.

24. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 сьнежня 1924 года „Пра няўхільнае выкананьне пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 5 сакавіка 1924 г. „Пра абвязковае

вядзеньне ў прадпрыемствах, установах і гаспадарках кніг, зьвязаных з правядзеньнем заканадаўства аб працы“ (З. З. БССР 1924 г., № 16, арт. 134).

25. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 студзеня 1924 г. „Пра рэарганізацыю бірж працы ў пасрэдніцкія бюро найманьня рабочай сілы“ (З. З. БССР 1925 г., № 16, арт. 129).

## За 1925 год.

26. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15 студзеня 1925 г. „Пра парадак запаўненьня і праверкі санітарна-тэхнічных і санітарна-гігіенічных карт палепшаньня“.

27. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 17 студзеня 1925 г. „Пра рэгістрацыю прыладаў і аппаратаў, якія дзейнічаюць пад даўленьнем параў, газаў і вадкасьцяй звыш атмасфэрнага (З.З. БССР 1925 г. № 17, арт. 156)

28. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР за 2 сакавіка 1925 году. „Пра мэдыцынскі абгляд рабочай моладзі“.

29. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 сакавіка 1925 г. „Пра ўстанаўленьне разьмераў пэнсіі інвалідам працы на тэрыторыі БССР“ (З.З. БССР 1925 г. № 18, арт. 168).

30. Абежнік Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня Народнага Камісарыяту Працы БССР за 16 сакавіка 1925 году „Пра павялічэньне пэнсіі“.

31. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 20 красавіка 1925 г. „Пра рэгістрацыю няшчасных выпадкаў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 1).

32. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 4 красавіка 1925 г. „Пра працу ў пакагальных раёнах“.

33. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 27 красавіка 1925 г. „Пра парадак рэгістрацыі калектыўных дагавораў і тарыфных згод у Інспэкцыях Працы“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г., № 2).

34. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 красавіка 1925 г. „Пра парадак спагнаньня страхавых ўносаў з культурна-асьветных установаў БССР“.

35. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 13 мая 1925 г. „Про даўжыню рабочага дня работнікаў друку“.

36. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 12 мая 1925 г. „Пра льготы і перавагі для вайскоўцаў Рабоча-Салянскай Чырвонай Арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага Флёту і іх сем'яў.“

37. Пастанова Савету па Справах Сацыяльнага Страхаваньня пры Народным Камісарыяце Працы БССР за 20 чэрвеня 1925 г. „Пра нормы пэнсій і дапамог па сацыяльным страхаваньні“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 1).

38. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 18 ліпеня 1925 г. „Пра выплату кампэнсацыі за нескарыстаньне водпуску асобамі, якія служылі без перапынку два календарныя гады ў кожным менш $5^1/_2$ месяцаў.“

39. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 29 ліпеня 1926 году „Пра зьмену зацьверджанага Народным Камісарыятам Працы БССР 24 лютага 1925 г. сьпісу работ і прафэсій, якія забаронены для падлеткаў“.

40. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 6 жніўня 1925 г. „Пра вылічэньне разьмеру пэнсіі для інвалідаў-калек, і

членаў сям'і асоб, памершіх ад калецтва да 1 студзеня 1924 г. і пасьля студзеня 1924 г."

41. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 28 верасьня 1925 г. „Пра парадак дачы водпускаў працуючым у працоўных калектывах". (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 6).

42. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР за 29 верасьня 1925 г. „Пра парадак аплаты выдаткаў на найманьне памяшканьняў пры камандыроўках працаўнікоў дзяржаўных установ і прадпрыемстваў" (Бюл. СНК БССР 1925 г.№ 6).

43. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 24 верасьня 1925 г. „Пра зацьверджаньне часовых правілаў аб вучнёўстве ў рамесьнікаў і саматужнікаў" (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. 5№).

44. Пастанова Народнага Камісарыяту БССР за 27 ліпеня 1925 г. „Пра рэгістрацыю працоўных дагавораў і тарыфных згод на адзіночак".

45. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 верасьня 1925 г. „Пра дапаўненьне пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 27 ліпеня 1925 г. „Пра рэгістрацыю працоўных дагавораў і тарыфных згод на адзіночак".

46. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 5 верасьня 1925. г. „Пра ўстанаўленьне міжнароднага юнацкага дня сьвяточным".

47. Пастанова Савету па Справах Сацыяльнага Страхаваньня пры Народным Камісарыяце Працы БССР за 20 ліпеня 1925 г. „Пра устанаўленьне тарыфа ўносаў на сацыяльнае страхаваньне для хатніх работніц" (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 4).

48. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Працы БССР за 31 жніўня 1925 г. „Пра абсьледваньне адходных промыслаў".

49. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 верасьня 1925 г. „Пра парадак прызначэньня асобных фондаў заработнай платы для выплаты пэрсанальных акладаў на першае паўгодзьдзе 1925-26 гаспадарчага году".

50. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 18 верасьня 1925 г. „Пра правы рабочых і служачых, што працуюць у працоўных калектывах і ўзяты ў тэрытарыяльныя часьці".

51. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы „Пра дачу дзяржаўнымі, прыватнымі і грамдзкімі установамі, прадпрыемствамі і гаспадаркамі зьвестак аб працуючых у іх грамадзянах, што нарадзіліся ў 1903 годзе."

52. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 28 верасьня 1925 г. „Пра зьмены і дапаўненьні пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 10 верасьня 1925 г. „Аб парадку прызначэньня асобных фондаў для выплаты пэрсанальных акладаў на першае паўгодзьдзе 1925-26 г.".

## За 1926 год.

53. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР №40 за 15 сакавіка 1926 г. „Пра дачу заявак на спэцыяльныя фонды на красавік—верасень 1926 г.".

54. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 31 сакавіка 1926 г. № 32 „Пра максімальныя разьмеры пэнсіі па часовай непрацаздольнасьці".

55. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 24 красавіка 1926 г. № 26 „Пра скасаваньне падачы зборак канфліктаў

(ф. № 5) пра падачу ў Народны Камісарыят Працы БССР канфліктных блянкаў (ф. № 4)“.

56. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 27 сакавіка 1926 г. № 24 „Пра асобныя дні адпачынку“.

57. Абежнік Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР за 29 красавіка 1926 г. „Пра адпачынкі для застрахаваных, што едуць на курорты“.

58. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР „Пра мэдыцынскі агляд рабочай моладзі“ за 29 ліпеня 1927 г. і інструкцыя да пастановы за 2 красавіка 1926 г.

59. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 24 красавіка 1926 г. № 27 „Пра парадак выплаты заработнай платы да сьвята 1 мая“.

60. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 26 мая 1926 г. № 38 „Пра нагляд інспэкцыі Працы за ўмовамі працы на будаўнічых работах“.

61. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя за 1 ліпеня 1926 г. № 45 „Часовыя правілы аб забясьпечаньні будаўнікоў часовымі памяшканьнямі“.

62. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 2 верасьня 1926 г. № 52 „Пра міжнародны юнацкі дзень“ (газэта „Зьвязда“ за 1926 г. № 201).

63. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 11 кастрычніка 1926 г. „Пра ўстанаўленьне асобных фондаў для аплаты спэцыялістаў на лістапад 1926 г.-сакавік 1927 г.

64. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 4 сьнежня 1926 г. „Пра дапаўненьне пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 11 кастрычніка 1926 г. аб устанаўленьні асобных фондаў для аплаты спэцыялістаў на лістапад 1926 г.-сакавік 1927 г.

## За 1927 год.

65. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 7/IX-1927 г. № 36 „Пра ўстанаўленьне ставак аплаты рабочай і гужавой сілы, якая прыцягваецца ў парадку працоўнай павіннасьці пры змаганьні з сьнежнымі замётамі“.

66. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 21 сакавіка 1927 г. „Пра пашырэньне арт. 80 Кодэксу Законаў аб Працы на дабравольцаў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 9).

67. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР за 2 сакавіка 1927 г. № 41 „Пра захаваньне за рабочымі і служачымі іх заробку за час выкананьня імі абавязкаў, зьвязаных з ваеннаю службаю“ (Бюлетэнь СНК БССР № 6).

68. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 21 сакавіка 1927 г. №47 „Пра ўстанаўленьне асобных фондаў для аплаты спэцыялістаў на красавік—верасень 1927 г.

69. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 23 красавіка 1927 г. № 60 „Пра парадак выплаты заработнай платы рабочым і служачым да сьвята 1 мая“.

70. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 24 кастрычніка 1927 г., № 83 „Пра сьвяткаваньне 10 гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі“.

*Увага.* Пастановы і абежнікі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР па пытаньнях працы і сацыяльнага страхаваньня: а) „Пра залічэньне ва Ўсерасійскі фонд сацыяльнага страхаваньня

ўсіх штрафаў, якія накладваюцца судом за незахаваньне законаў аб ахове працы"—абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 21 верасьня 1922 г. (З. З. БССР 1922 г., № 12, арт. 159), б) „Пра адказнасьць уласьнікаў і адказных кіраўнікоў установ і гаспадарак за парушэньне законаў аб сацыяльным страхаваньні"-пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 7 кастрычніка 1922 г. (З. З. БССР 1922 г., № 12, арт. 157), в) „Пра парадак выдачы сутачных і дарожных служачым і рабочым дзяржаўных, грамадзкіх і прыватных установ і прадпрыемстваў пры выкліканьні іх ў якасьці сьведак, экспэртаў, перакладчыкаў і панятых"—абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 3 мая 1923 г. (З. З. БССР 1923 г., № 7, арт. 681), г) „Пра падсуднасьць спраў па ўстанаўленьні працоўнага стажу і пра устанаўленьне факту ўладаньня будынкам"—абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 19 мая 1923 г. (З. З. БССР 1923 г., № 5, арт. 74)—скасаваны, паводле абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 28 сакавіка 1927 г. Абежнікі Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 24 студзеня 1923 г. „Пра арганізацыю працоўных сэсій для разгляду спраў па парушэньні Кодэксу Законаў аб Працы (З. З. БССР 1923 г., № 1-2, арт. 21) і за 6 ліпеня 1923 г. „Пра парадак вядзеньня спраў, падсудных працоўным сэсіям (З. З. БССР 1923 г., № 11, арт. 106),—скасаваны, паводле абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 25 красавіка 1928 г.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена:
- з ЦСПСБ—адносьнік № 300/00/5 за 20 лютага 1928 г.
- „ НК Унутраных Спраў—адносьнік № 1363 за 20 сакавіка 1928 г.
- „ НК Аховы Здароўя—адносьнік № 17 за 29 сакав. 1928 г.
- „ НК Фінансаў — За Народнага Камісара Фінансаў **М. Кардашэнка.**

5 мая 1928 г.
№ 33.

---

УЗГОДНЕНА З ЦСПСБ

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

ПРА МЭДЫЦЫНСКІЯ АБГЛЯДЫ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ, ЗАНЯТЫХ У ХАРЧОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ, ГАНДЛІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ І ПРАДПРЫЕМСТВАХ ГРАМАДЗКАГА ХАРЧАВАНЬНЯ.

Для папэраджаньня перадачы хвароб насельніцтву праз прадукты харчаваньня тымі асобамі, якія маюць дачыненьне да прадуктаў харчаваньня ў працэсе вырабу іх альбо гандлю, Народны Камісарыят Аховы Здароўя і Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 143 Кодэксу Законаў аб Працы, пастанаўляюць:

1. Рабочыя і служачыя дзяржаўных, грамадзкіх, капэрацыйных і прыватных прадпрыемстваў для вырабу харчовых прадуктаў і напіткаў і гандлю імі павінны праходзіць мэдыцынскі абгляд: папярэдні—перад прыняцьцем на працу і пэрыядычны у часе працы ў памянёных прадпрыемствах.

Мэдыцынскі абгляд павінны таксама праходзіць і прадпрыемцы, калі яны самі беспасрэдна займаюцца вырабам альбо гандлем харчовых прадуктаў.

2. Мэдыцынскія абгляды маюць на мэце: 1, выявіць тых працаўнікоў, якія могуць быць небясьпечнымі ў сэнсе распаўсюджваньня заразных хвароб сярод насельніцтва праз прадукты харчаваньня і 2) ужыць сваечасовыя захады да папярэджаньня ад гэтай небясьпекі.

3. Адказнасьць за прыманьне на службу асоб, якія не праходзілі папярэдняга мэдыцынскага абгляду, ускладаецца на адміністрацыю альбо ўласьнікаў прадпрыемстваў. Абавязковасьць мэдыцынскага абгляду павінна быць прадугледжана ў правілах унутранага парадку кожнага прадпрыемства.

4. Арганізацыя папярэдніх і пэрыадычных мэдыцынскіх абглядаў ускладаецца на акруговыя інспэктуры аховы здароўя па згодзе з акруговымі інспэкцыямі працы і саюзамі народнага харчаваньня і харчавікоў на мясцох.

5. Пэрыадычныя абгляды робяцца ў тэрміны ад аднаго да трох месяцаў, у залежнасьці ад катэгоры працы і характару самага прадпрыемства, што дакладна вызначаецца мясцамі.

6. Заключэньні мэдыцынскіх абглядаў аб дазволе ці недазволе працаваць у харчовых прадпрыемствах абглядаючыя лекава-прафіляктычныя ўстановы альбо спэцыяльныя камісіі вядуць асобным запісам і адзначаюць у асобных картках, якія выдаюцца абгледжаным на рукі.

У гэтай-жа картцы робяцца адзнакі пэрыадычных абглядах.

Звольненыя з працы з прычыны хваробы паводле п. „ж“ арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы, вылячыўшыся могуць дастаць дазвол вярнуцца зноў на працу толькі тады, калі яны ня могуць перадаваць заразы, аб чым робіцца ў картцы адпаведная адзнака лекавай установы.'

*Увага.* Калі ў часе абгляду будуць непаразуменьні альбо спрэчкі, то пытаньне для канчатковага вырашэньня перадаецца ў доктарскую кантрольную камісію.

7. Застрахаваныя, калі яны звальняюцца з працы, забясьпечваюцца паводле пастановы Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 25 жніўня 1927 г. № 282 „Известия НКТруда“ за 1927 г. № 42).

8. Сьпіс прадпрыемстваў, працаўнікі якіх павінны забясьпечвацца, і сьпіс хвароб, з прычыны якіх не дазваляецца працаваць у харчовых прадпрыемствах, вызначаецца паводле дадаткаў I і II да паказанай вышэй пастановы Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 25 жніўня 1927 г. і пастановы Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня за 5 красавіка 1928 г. № 236 (газэта "Труд“ за 5 мая 1928 г.)

9. З часу выданьня гэтага палажэньня касуюцца ўсе ранейшыя распараджэньні пра мэдыцынскія абгляды рабочых і служачых харчовых прадпрыемстваў і ўстаноў.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Н. Мяркулаў.**

11 мая 1928 г.
№ 34.

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

ПРА СПАГНАНЬНІ ПА ВЫКАНАЛЬНЫХ ЛІСТОХ.

Для разьвіцьця арт. 334 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Пры спагнаньнях па выканальных лістох не дазваляецца браць з наступных сум: а) з сум якія, выдаюцца пры камандыроўках паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Аб службовых камандыроўках у межах СССР“ (З. З. СССР 1927 г. № 4, арт. 42); б) з сум, якія выдаюцца пры перамяшчэньнях паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 9 лістапада 1927 г. „Аб кампэнсацыях пры пераводах і пры найманьні на работу ў іншыя мясцовасьці“ (З. З. СССР 1927 г., № 65, арт. 660); в) з выхадной дапамогі, якая выдаецца пры звальненьні; г) з сум, якія выдаюцца як кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск, за амортызацыю начыньня, якое належыць рабочым (арт. 85 Кодэксу Законаў аб Працы), за спэцыяльную вопратку і тлушчы (арт. арт. 86, 141 і 142 Код Зак. аб Працы); д) з заработнай платы, што выплачваецца на грамадзкіх работах асобам, занятым на гэтых работах у парадку аказваньня працоўнай дапамогі; е) з сум, якія выдаюцца ў парадку сацыяльнага забясьпечаньня.

2. З сум, што выплачваюцца, як стыпэндыі, студэнтам навучальных устаноў, дазваляецца браць па выканальных лістох толькі на ўтрыманьне сям'і стыпэндыята і задоўжанасьці за карыстаньне інтэрнатам у разьмеры, устаноўленым п. п. „а“ і „б“ арт. 334 ГПК у дачыненьні да спагнаньняў з заработнай платы рабочых і służачых.

3. З часу ўвядзеньня ў сілу гэтай пастановы касуюцца:

а) пастанова НКП і НКЮ БССР за 26 сьнежня 1923 г. № 51 „Пра спагнаньні па выканальных лістох“ (З. З. БССР 1924 г., № 1, арт. 10), б) пастанова НКП і НКЮ за 22 чэрвеня 1925 г. „Пра накіраваньне спагнаньняў на сумы, што выплачваюцца органамі сацыяльнага страхаваньня“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 3).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

12 мая 1928 г.
№ 35.

---

## 8 Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ СУПРОЦЬ НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ ПРЫ РАБОЦЕ З СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫМІ МАШЫНАМІ.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Абавязковую пастанову Народнага Камісарыяту Працы Саюзу ССР за 10 кастрычніка 1927 г. № 318 „Правила о мерах против несчастных случаев при работе с сельско-хозяйственными машинами“ („Известия НКТ СССР“ 1927 г., № 46/47) увесьці ў сілу на тэрыторыі БССР з 20 мая 1928 г.

2. З часу апублікаваньня гэтай пастановы касуюцца: а) арт. арт. 18-31 пастановы НКПрацы БССР за 20 мая 1925 г. „Аб умовах працы ў сялянскай гаспадарцы“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г., № 1) і б) паста-

нова НКПрацы БССР за 6 сьнежня 1927 г. № 92 „Пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы НКПрацы СССР за 10 кастрычніка 1927 г. № 318 „Правила о мерах против несчастных случаев при работе с сельско-хозяйственными машинами" (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 2).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Мяркулаў.**

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар НКП БССР **Лашкевіч.**

14 мая 1928 г.
№ 36.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы І Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

ПРА АДКАЗНАСЬЦЬ СЛУЖБОВЫХ І ІНШЫХ АСОБ ЗА ПАРУШЭНЬНІ ЗАКАНАДАЎСТВА Ў ГАЛІНЕ НАЙМАНЬНЯ, ЗВАЛЬНЕНЬНЯ І АПЛАТЫ ПРАЦЫ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ, А ТАКСАМА ЗА НЕВЫКАНАНЬНЕ ПАСТАНОЎ СУДОВЫХ І КАНФЛІКТНЫХ ОРГАНАЎ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ.

Для змаганьня з парушэньнем працоўнага заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

І. Парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, а таксама невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў па працоўных справах выклікае крымінальную, адміністрацыйную і матар'яльную адказнасьць у наступным парадку.

ІІ. У крымінальным парадку, паводле адпаведных артыкулаў Крымінальнага Кодэксу, караюцца наступныя дзеяньні:

а) парушэньні заканадаўства аб парадку найманьня рабочай сілы, у паасобку, правілаў аб дачы працы дэмабілізаваным чырвонаармейцам, падлеткам, стажорам і практыкантам;

б) набор масавай і групавой рабочай сілы для выкананьня працаёмістых капітальных работ і сэзонных работ без папярэдняга заключэньня спэцыяльнай згоды з НКПрацы СССР, НКПрацы БССР і яго мясцовымі органамі, а таксама прыцягненьне рабочай сілы з іншых мясцовасьцяй праз скарыстаньне паслуг прыватных фактароў, выкліканьня рабочай сілы лістамі, апавяшчэньнямі і інш. (З.З. СССР 1927 г., № 13, арт. 132, п.п. 1 і 2);

в) невыкананьне наймальнікамі і іх агэнтамі, якія наймаюць масавую рабочую сілу на вёсцы на выезд, абавязковай рэгістрацыі сваіх пасьведчаньняў асобы і паказаньня, паводле запатрабананьня раённага выканаўчага камітэту або сельскага савету, паўнамоцтваў на набор, а таксама пасьведчаных наймальнікам умоў аплаты працы (З. З. БССР 1925 г. № 16, арт. 128);

г) невыкананьне умоў найманьня рабочых (умоў працы, аплаты праезду, забясьпечаньня кватэраю), якія абвяшчаюцца рабочым пры наборы (З. З. СССР 1927 г., № 13, арт. 132, п. 3);

д) набор рабочай сілы трэстамі для новых прадпрыемстваў і для прадпрыемстваў, якія пашыраюць сваю вытворчасьць, без папярэдняй згоды з органамі НКПрацы (інструкцыя НКПрацы СССР за 3 мая 1927 г. № 91—„Известия НКТ" 1927 г. № 19/20);

е) парушэньне парадку найманьня рабочай сілы, які ўстаноўлен калектыўным дагаворам;

ж) звальненьне рабочых і служачых з парушэньнем існуючага заканадаўства або правілаў каляктыўнага дагавору ў дачыненьні да падстаў для звальненьня, а таксама і ў дачыненьні да гарантый правільнасьці звальненьня (санкцыя РКК або згода прафэсіянальнага саюзу):

з) невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў аб аднаўленьні на пасадзе няправільна зволеных рабочых і служачых;

і) ня сумленнае зацягваньне канфліктаў, якія ўзьніклі з прычыны няправільнага звальненьня, калі робіцца шкода дзяржаве;

к) невыкананьне правілаў аб тэрмінах выплаты заработнай платы;

л) парушэньне правілаў аб аплаце працы рабочых і служачых у дзяржаўных установах і прадпрыемствах, калі ёсьць абцяжаючыя акалічнасьці, а іменна;

1) аплата камандыровак і перамяшчэньняў больш норм, якія вызначаны ў законе:

2) выплата заработнай платы за дні хваробы, што аплачваецца страховаю касаю;

3) выплата кампэнсацый за нескарыстаны водпуск у разьмеры, які перавышае ўстаноўлены законам або дагаворам;

4) аплата за ўдзел у пасяджэньнях камісіях і інш., калі гэтакая аплата не прадугледжана законам;

5) выдача ўсялякіх непрадугледжаных законам або дагаворам дадатковых відаў платы;

6) выплата спэцыяльных ставак, калі няма зацьверджанага НКПрацы СССР, НКПрацы БССР альбо яго мясцовымі органамі спэцыяльнага фонду, а таксама і перарасходваньне зацьверджанага фонду;

7) аплата, паводле тарыфу адказных працаўнікоў, асоб, якія не прадугледжаны ў пераліках, устаноўленых НКПрацы СССР альбо НКПрацы БССР;

8) выдача заработнай платы ў разьмеры, меншым за ўстаноўлены дзяржаўны мінімум;

9) зьмена ўстаноўленых НКПрацы нармаваных ставак (без належнага дазволу);

10) выдача дадатковай платы, непрадугледжанай законам альбо каляктыўным дагаворам.

*Увага.* Калі няма абцяжаючых акалічнасьцяй, то паказаныя ў пункце „м“ дзеяньні караюцца ў дысцыплінарным парадку.

III. У адміністрацыйным парадку парушэньні правілаў аб найманьні, звальненьні і аплаце працы рабочых і служачых караюцца тады, калі паводле існуючага палажэньня данае парушэньне выклікае адказнасьць у адміністрацыйным парадку або калі самым парушаным законам вызначана адказнасьць у гэтым парадку.

IV. Калі парушэньне заканадаўства аб найманьні, звальненьні і аплаце працы рабочых і служачых выклікала шкоду для ўстановы або прадпрыемства, то органы, якім падпарадкаваны гэтыя ўстановы

альбо прадпрыемствы, павінны падняць пытаньне аб аплаце такой шкоды праз падачу ў адпаведным судзе іску да зрабіўшай яе службовай асобы.

V. Калі іск аб сплаце шкоды ня будзе пададзены паказанымі ў папярэднім артыкуле ўстановамі і прадпрыемствамі, дык гэты іск падаецца беспасрэдна пракуратураю на нападставе арт. 2 ГПК.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

15 мая 1928 г.
№ 37.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР.

### ПРА РЭГІСТРАЦЫЮ ПРЫВАТНЫХ ГАНДЛЯРОЎ—СКУПШЧЫКАЎ АВЕЧАЙ І БАРАНОВАЙ ВОЎНЫ І ПРА ЦЭНЫ НА ШЭРСЬЦЬ.

Паводле п. п. „в“, „д“, „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР і пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 31 сакавіка 1928 г. „Пра арганізацыю рынку вясеньняй воўны на сэзон 1928 г.“, а таксама абежніку НК Гандлю СССР за 9 красавіка 1926 г., № 9д 153, Народны Камісарыят Гандлю БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Усе прыватныя гандляры, што займаюцца скупкаю авечай і барановай воўны, як мясцовыя, так і тыя, якія прыбываюць з іншых месц у БССР, павінны рэгістравацца ў акруговых інспэктароў гандлю, маючы пры сабе патэнты адпаведных разрадаў.

*Увага.* Акруговыя інспэктары гандлю пры рэгістрацыі прыватных скупшчыкаў воўны вызначаюць ім пэўны раён для скупкі, аб чым робяць адпаведную адзнаку на патэнтах.

Прыватныя скупшчыкі могуць ажыцьцяўляць памянёныя апарацыі толькі ў раёнах, адведзеных акруговымі інспэктарамі гандлю.

2. Скупка і гандаль паказанаю ў арт. 1-м гэтай пастановы воўны бязумоўна забараняецца гандлярам—скупшчыкам, не зарэгістраваным у органах Народнага Камісарыяту Гандлю.

3. Прыватныя гандляры—скупшчыкі павінны скупляць воўну па цэнах, устаноўленых Народным Камісарыятам Гандлю для дзяржаўных і каперацыйных загатоўшчыкаў.

*Увага.* Народны Камісарыят Гандлю ўстанавіў для дзяржаўных і каперацыйных загатоўшчыкаў цану ў размеры 70 к. за кілёграм воўны арыгінальнай, нармальнай якасьці, якая здаецца трымальнікамі ў разгорнутых рунах, няпрэлая, негарэлая, нямолеедная, незацярушаная шгучна, бяз клюнкера і бяз лішніх прымешак.

4. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

14 мая 1928 г.
№ 42.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### ПРА ЗЬМЕНУ СВАЕ ПАСТАНОВЫ ЗА 10 СТУДЗЕНЯ 1928 г. „ПРА ЗАБАРОНУ МЛЫННЫМ ПРАДПРЫЕМСТВАМ ПЕРАПРАЦОЎКІ ЖЫТА І ПШАНІЦЫ Ў ГАТУНКАВЫ ПАМОЛ ВЫХАДАМ МЕНШ 95 ПРОЦ."

Для зьмены п. п 1 і 2 свае пастановы за 10 студзеня 1928 г. № 2 „Пра забарону млынным прадпрыемствам пераапрацоўкі жыта і пшаніцы ў гатунковы памол выхадам менш 95 проц." (апублікавана ў газэце „Савецкая Беларусь" за 12/I 1928 г. № 10, „Камэрцыйным Бюлетэні „Белкта" за 14/I 1928 г. № 4 і ў Бюлетэні СНК БССР за 1928 № 1"), Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе загаду Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 18 і 19 мая 1928 г. №№ 6/3115 і 6/3124 і за 20/V-28 г. за № 6/3141, пастанаўляе:

1. Забараніць усім дзяржаўным, каперацыйным і прыватным млынным прадпрыемствам пераапрацоўку жыта і пшаніцы ў гатункавыя помолы выхадам жытняй мукі менш 95 проц і пшанічнай менш 80 проц., незалежна ад таго, для якіх памольцаў апошнія пераапрацоўваюцца, для уласнай патрэбы, па даручэньні альбо для продажу.

2. Для паказаных у п. 1-м памолаў устанавіць наступныя адзнакі, якія павінны характарызаваць іх якасьць:

| Гатунак памолу | % выхаду мукі | % зольнасьці | % вільготнасьці |
|---|---|---|---|
| Жытні абойны | 95 | 1,9 | 15,5 |
| Пшаніч. аднагатунковы | 80 | 1,0 | 15,5 |

*Увага.* Жытняя абойная мука абавязкова павінна прапушчацца праз абойку два разы.

3. Забараніць усім дзяржаўным, каперацыйным і прыватным прадпрыемствам, што пякуць хлеб, высяваць паказаную ў п. п. 1 і 2муку, а таксама муку простых памолаў ў муку вышэйшых гатункаў і выпушчаць выпечаную з гэтай мукі прадукцыю.

4. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

5. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю, на дзяржаўную хлебную інспэкцыю, сельскія саветы і міліцыю.

6. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы, паводле арт. арт. 106 і 141 Кр. Код., а прыватныя—паводле арт. 141 таго-ж Кодэксу.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

21 мая 1928 г.
№ 43.

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

ПРА ПРЫЦЯГНЕНЬНЕ ВУЧНЯЎ ДА ЎДЗЕЛУ Ў ПРАЦЫ ПА ЛІКВІДАЦЫІ НЯПІСЬМЕННАСЬЦІ

*Акруговым інспэктаром народнай асьветы.*

Пытаньне ліквідаціі няпісьменнасьці як сярод дарослага насельніцтва, так і перарасткаў, зьяўляецца актуальнейшым пытаньнем дня. Да гэтага пытаньня прыцягваецца ўвага ўсіх арганізацый і ўсяго насельніцтва.

Навучальные ўстановы таксама не павінны стаяць у баку ад гэтай важнай справы.

У зьвязку з адзначаным Народны Камісарыят Асьветы прапануе:

1. Зараз-жа правесьці, разам з мясцовымі радамі т-ва „П.Н.“ як спробу, працу па арганізацыі ў больш вялікіх сямігодках, дзевяцігодках і школах сялянскай моладзі ячэяк т-ва „Прэч няпісьменнасьць“, уцягваючы ў іх настаўніцтва, а таксама і вучняў школ.

2. Высьвятліць, хто з вучняў 6-7 клясаў сямігодак, старэйшых клясаў дзевяці-годак і школ сялянскай моладзі жадае ў летні час весьці працу па ліквідацыі няпісьменнасьці і скарыстаць іх праз яч. т-ва „П.Н.“ для працы ў нядзельных групах па ліквідацыі няпісьменнасьці.

3. Каб даць гэтым вучням належную падрыхтоўку з мэтадычнага боку, уцягваць іх на курсы, якія арганізоўваюцца у летні час для падрыхтоўкі актыву „П. Н.“ (праграма надрукавана ў часопісі „Асьвета“ № 4).

4. Весьці падлік працы, адзначаючы ў ім:

а) лік школ, у якіх арганізаваны ячэйкі т-ва „П. Н.“, і лік членаў (з вучняў) у іх;

б) лік вучняў, якія прайшлі курсы па перападрыхтоўцы актыву т-ва „П. Н.“;

в) лік вучняў, якія працуюць па ліквідацыі няпісьменнасьці;

г) лік няпісьменных, якія навучаюцца вучнямі,

д) вынікі працы (дасягненьні і недахопы).

Аб выніках памянёнай спробы паведаміць Народны Камісарыят Асьветы не пазьней 1-га верасьня 1928 году.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасэвіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы **Ю. Савіч.**

15 мая 1928 г.
№ 20.

---

## 13. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР

ПРА ПАРАДАК АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЯ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 13 ЛЮТАГА 1928 г. ПРА ПРЭМІРАВАНЬНЕ СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ І РАБОТНІКАЎ КАМУНАЛЬНЫХ РЭЗЬНІЦ ЗА ВЫКРЫЦЬЦЕ АСОБ, ЯКІЯ ТАЕМНА РЭЖУЦЬ ЖЫВЁЛУ І АСОБ, ЯКІЯ НЯ ЗДАЮЦЬ ДЛЯ ЗАСОЛКІ СКУР АД ЗАРЭЗАНАЙ ІМІ ЖЫВЁЛЫ. (З. З. БССР 1928 г., № 8, АРТ. 60).

1. Штрафы, якія спаганяюцца ў адміністрацыйным парадку за таемны зарэз жывёлы альбо за няздачу для засолкі скур ад зарэзанай імі жывелы, разьмяркоўваюцца наступным парадкам:

а) 20 проц. ідзе на прэміраваньне супрацоўнікаў міліцыі,

б) 10 проц.—на прэміраваньне работнікаў камунальных рэзьніці

в) 70 проц.—у даход мясцовага бюджэту.

2. Спагнаныя органамі міліцыі сумы штрафаў (арт. 1) здаюцца ў касы Народнага Камісарыяту Фінансаў і яго фінансавыя аддзелы, якія з атрыманых сум 20 проц. адлічаюць адміністрацыйным аддзелам на прэміраваньне супрацоўнікаў міліцыі і 10 проц. аддзелам камунальных гаспадарак акруговых выканаўчых камітэтаў на прэміраваньне работнікаў камунальных рэзьніц.

3. 50 проц. з сум (п. „а“ і „б“ арт. 1), атрыманых адміністрацыйнымі аддзеламі і аддзеламі камунальнай гаспадаркі акруговых выканаўчых камітэтаў на прэміраваньне супрацоўнікаў міліцыі і камунальных рэзьніц штомесяц выдаюцца па патрабавальных ведамасьцях супрацоўнікам тых часьцей міліцыі і камунальных рэзьніц, якія выкрылі памянёнае у п. 1 парушэньне, а рэшта 50 проц. астаецца у памянёных аддзелах для палепшаньня быту супрацоўнікаў усяе акругі.

*Увага.* Камунальныя рэзьніцы для складаньня патрабавальных ведамасьцяй на прэміраваньне работнікаў, якія выкрылі памянёнае вышэй парушэньне, атрымоўваюць належныя зьвесткі ў адпаведных органах міліцыі.

4. Калі паказанае у п. 1 парушэньне выкрыта работнікамі міліцыі, дык уся сума прэміі, якая належыць работнікам камунальных рэзьніц, ідзе ў фонд палепшаньня быту работнікаў камунальных рэзьніц. Таксама і калі парушэньне выкрыта работнікамі камунальных рэзьніць, дык уся сума прэміі, якая належыць работнікам міліцыі, ідзе цалкам у фонд палепшаньня быту работнікаў міліціі.

5. Калі будзе выкрыта памянёнае ў п. 1 парушэньне работнікамі камунальных рэзьніць, дык яны складаюць акт у двух экзэмплярах, першы экзэмпляр якога накіроўваюць у адпаведныя органы міліцыі, а другі—падшываюць да справы рэзьніцы.

6. Сумы, атрыманыя адміністрацыйнымі аддзеламі і аддзеламі камунальнай гаспадаркі акруговых выканаўчых камітэтаў на палепшаньне быту супрацоўнікаў, расходуюцца на закупку месц на курортах, у дамох адпачынку і на выдачу дапамогі работнікам, якія маюць вострую патрэбу з прычыны хваробы або іншых няшчасьцяў.

7. На паказаныя вышэй сумы адміністрацыйныя аддзелы і камунальныя гаспадаркі вядуць прыхода-расходныя сшыткі.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

5 мая 1928 г.

---

## 14. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Ўнутраных Спраў і Юстыцыі БССР

ПА ПЫТАНЬНЯХ, ЗЬВЯЗАНЫХ З АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЕМ ДЭКРЭТУ АБ АДЛУЧЭНЬНІ ЦАРКВЫ АД ДЗЯРЖАВЫ Ў БССР.

На тэрыторыі БССР ёсьць шэраг рэлігійных плыньняў, якія яднаюцца і імкнуцца аб'яднацца ў прыходы, брацтвы ці групы веруючых з асобнымі назвамі, а іменна: цьвярозьнікі, старацаркоўнікі, багамолы, аднаўленцы, евангэльскія хрысьціяне, хрысьціяне-баптысты, адвэнцісты 7 дня, аўтокефальцы і інш.

У мясцовых органах улады пры ажыцьцяўленьні дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы нярэдка бываюць і могуць быць

розныя перашкоды і непаразуменьні, зьвязаныя з пытаньнямі рэгістрацыі, вызначэньня асоб, якія адносяцца да служнікаў рэлігійных культаў і інш.

У сувязі з гэтым Народныя Камісарыяты Ўнутраных Спраў і Юстыцыі БССР лічаць патрэбным даць наступныя тлумачэньні:

1. Дэкрэт СНК БССР за 11 студзеня 1922 г. аб адлучэньні царквы ад дзяржавы і аб вольнасьці веры і выкананьня рэлігійных абрадаў зьяўляецца асноўным законам, на якім і павінны грунтавацца ўсе распараджэньні і дзеяньні органаў улады на мясцох.

2. Брацтвы, групы, прыходы і інш. рэлігійныя аб'яднаньні і арганізацыі ўсіх без выключэньня толкаў і плыньняў, якія ёсьць толькі ў БССР, а таксама і новаарганізаваныя, павінны перасьледваць толькі чыста рэлігійныя мэты і з тымі прыватнымі аб'яднаньнямі і таварыствамі, якія перасьледуюць навуковыя, культурныя і інш. мэты, нічога агульнага не павінны мець. Яны ня маюць правоў: уласнасьці, юрыдычнай асобы, прысваеньня сабе судовых, каральных і падатковых функцый, ня могуць выдаваць пасьведчаньняў, мандатаў і інш. дакумэнтаў і паўнамоцтваў на прадстаўніцтва ад рэлігійнага аб'яднаньня ці арганізацыі для гаспадарчых, прамысловых, гандлёвых і іншых мэтаў, ня маюць права перасьледваць мэтаў атрыманьня прыбыткаў і матар'яльнага зыску.

3. Усе брацтвы, групы, прыходы і іншыя рэлігійныя аб'яднаньні і арганізацыі, незалежна ад колькасці веруючых, павінны рэгістравацца ў адміністрацыйных аддзелах, а паміжакруговыя—ў Народным Камісарыяце Ўнутраных Спраў, для чаго павінны падаваць ў 4-х экзэмплярах: а) сьпісы служнікаў культу, савету брацтва, групы ці прыходу, пяцёркі і радавых членаў (веруючых); б) дэкляраціі ці асобныя выпіскі з іх па пытаньнях аб адносінах да ўлады і дзяржаўных павіннасьцяй, з абавязковымі подпісамі на іх кожнага веруючага ў паасобку; в) статуты, прынятыя брацтвам ці групай, у якіх асобнымі пунктамі павінны быць абумоўлены адносіны веруючых да ўлады і выкананьня ўсякіх дзяржаўных, грамадзкіх і вайсковых павіннасьцяй і парадак зачыненьня брацтва ці групы; г) апісаньне тэрыторыі граніц, што ўваходзяць у рэлігійнае аб'яднаньне: брацтва, групу, прыход, эпархію і г. д. і абслугоўваецца такім; д) паказаньне месца знаходжаньня культавага ці маліцьвенага будынку, месца знаходжаньня кіраўніцтва, савету ці аддзелу; е) сьпіс культавай маемасьці з дагаворам на такую; ж) паказаньне часу маліцьвеных сходаў і з) іншыя дакумэнты, якія могуць быць патрабаваны пры рэгістрацыі.

4. Органамі ўлады рэгіструюцца з выдачаю адпаведнай даведкі ўсе рэлігійныя аб'яднаньні і арганізацыі, якія пададуць для гэтай мэты дакумэнты, пералічаныя ў п. 3, і прызнаюць сябе і кожнага свайго члена (веруючага) ў паасобку абавязаным выконваць і адбываць усялякія дзяржаўныя павіннасьці нароўні з іншымі грамадзянамі.

5. Два разы ў год (да 15-га мая і да 15-га лістапада) рэлігійныя аб'яднаньні і арганізацыі павінны падаваць па месцы свае рэгістрацыі дадатковыя сьпісы новых і выйшаўшых служнікаў культу, складу савету брацтва, групы ці прыходу, складу пяцёркі і радавых членаў (веруючых), а таксама і іншыя зьвесткі, паводле п. 3 гэтай інструкцыі, калі ў іх адбыліся зьмены (зьмена адрэсоў, часу маліцьвеных сходаў і інш). калі за паказаныя пэрыяды ў рэлігійным аб'яднаньні ці арганізацыі ня было зьмен, то савет і служнік культу павінны аб гэтым паведаміць орган улады, ў якім зарэгістраваны.

6. Рэлігійныя арганізацыі ці аб'яднаньні, якія не зарэгістраваны, а таксама ўхіляюцца ад рэгістрацыі, павінны разглядацца, як нелегальныя, і асобы, якія стаяць на чале іх, адказваюць паводле арт. 219 Кр. Код.

7.Рэлігійныя патрэбы: набажэнствы, казаньні, якія зьяўляюцца абавязкова цатрэбнаю часткаю набажэнства, або маліцьвенага сходу, шлюбы, хрышчэньні і адпяваньне памёршага ў сьценах культавых памяшканьняў (царквы, сінагогі, касьцёлу, кірхі, маліцьвенага дому і інш.) адбываюцца вольна. Не дазваляецца скарыстоўваць маліцьвеныя сходы, набажэнствы і інш. рэлігійныя патрэбы для абмеркаваньня пытаньняў, якія не зьяўляюцца часткаю набажэнства, такіх як: гаспадарча-матар'яльныя, місіянэрскія, перавыбары і інш., а таксама не дазваляецца рабіць усялякія публічныя рэлігійныя патрэбы ў начны (з 22 да 6 гадз.) час, апроч асобна устаноўленых звычаямі тэй ці іншай рэлігіі, пры разьвіцьці пошасьцяй і г. д.

8. Арганізацыя сходаў для перавыбараў і абмеркаваньня гаспадарчых, місіянэрскіх і інш. пытаньняў, дзе-б такія не адбываліся, а таксама рэлігійных патрэб не ў культавым памяшканьні ці маліцьвеным доме, такіх як: рэлігійныя працэсіі, апроч звычайных пахавальных працэсій, масавае хрышчэньне на рэчцы, усякі раз дапушчаецца толькі з адпаведнага дазволу органаў мясцовай улады.

9. Служнікам культу лічыцца асоба, якая абслугоўвае рэлігійныя патрэбы брацтва, групы, прыходу, эпархіі, аддзелу, мітраполіі і іншых рэлігійных аб'яднаньняў і ад апошніх мае сталую, вызначаную ці пэрыядычна зьбіраемую (талерачны збор, дзесяціна, добраахвотныя афяраваньні і інш., матар'яльную дапамогу, у чым-бы яна не выяўлялася. Паказанае азначэньне служніка культу пашыраецца таксама і на сэктанства ўсіх яго відаў.

10. Служнік культу і ўсякая іншая асоба, наколькі дэкрэтам аб адлучэньні царквы ад дзяржавы прызнаецца вольнасьць веры і кожнае рэлігійнае аб'яднаньне, брацтва ці група рэгіструецца самастойна з замацаваньнем за сабою тэрыторыі рэлігійнага абслугоўваньня, ня мае права і не павінен для вядзеньня рэлігійных абрадаў, правядзеньня маліцьвеных сходаў і інш. мэтаў пераходзіць на тэрыторыю не свайго брацтва, групы ці аб'яднаньня, і з гэтай прычыны служнік культу і ўсякая іншая асоба сэктанцкіх плыньняў павінна абслугоўваць толькі свае брацтва ці групу так, як сьвяшчэньнік, ксёндз і інш. свой прыход.

11. Служнікі рэлігійных культаў абкладаюцца агульным з усімі грамадзянамі падаткам, якія плацяць па тых ці іншых асновах і стаўках. Прамысловага падатку ў відзе патэнту на выкананьне сваіх культавых абавязкаў яны не плацяць (Тлумачэньне НКФ за 17/XI-1923 г., № 52555/46).

12. Грамадзяне БССР могуць за сябе і за сваіх аднадумаў удзельнічаць у рэлігійных зьездах, але ні ў якім выпадку ня могуць быць прадстаўнікамі на гэтых зьездах ад імя працоўных з агульнадзяржаўных, прафэсіянальных і прамысловых галін жыцьця.

13. Рэлігійныя арганізацыі (эпархіяльныя нарады, зьезды, кіраўніцтвы і інш.) ня могуць вымагаць ад веруючых бязумоўнага выкананьня сваіх распараджэньняў, якія праводзяцца ў парадку ўнутранай царкоўнай дысцыпліны, калі гэтыя распараджэньні тычацца гаспадарчага кіраваньня культаваю маемасьцю, і ня маюць права прымушаць даваць якія-небудзь падарункі ці зборы на карысьць рэлігійных аб'яднаньняў, хаця-б пад пагрозай толькі рэлігійнага пакараньня.

14. Паводле дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы і канстытуцыі БССР забараняецца выкладаць рэлігійныя вучэньні дзецям і не дасягнуўшым 18-ці гадоў у дзяржаўных і прыватных школах. Грамадзяне могуць вучыцца рэлігіі самі і вучыць іншых прыватным парадкам, і на гэтай аснове бацькі могуць вучыць сваіх дзяцей рэлігійным вучэньням самі ці праз запрошаных для гэтай, мэты асоб, пры чым, аднак, гэта навучаньне не павінна мець групавога характару, гэта значыць, што колькасьць вучняў не павінна перавышаць трох. Ня можа быць дазволена існаваньне рэлігійных дзіцячых і юнацкіх гурткоў, аддзелаў ці арганізацый. Служнікі ўсіх рэлігійных культаў, па запрашэньні бацькоў, могуць выкладаць веравучэньне іх дзецям, але пры гэтым трэба наглядаць, каб гэта навучаньне не вялося ў маліцьвеных дамох і ня мела групавога характару.

15. Адміністрацыйныя аддзелы маюць права падняць пытаньне аб судовым пакараньні асоб, якія нарушаюць правілы паказаныя ў гэтай інструкцыі (арт. 219 Кр. Код.).

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

5 мая 1928 г.

---

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### ПРА ПАРАДАК ПЕРАДАЧЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ЗЯМЕЛЬНАЙ МАЕМАСЬЦІ Ў ПРАЦОЎНАЕ КАРЫСТАНЬНЕ ПРЫ СКАСАВАНЬНІ АРЭНДНЫХ ДАГАВОРАЎ НА ГЭТУЮ МАЕМАСЬЦЬ.

*Раённым выканаўчым камітэтам (Па зямельнай часьці).*

Пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 27 кастрычніка 1927 году пра датэрміновае скасаваньне дагавораў на адданую ў арэнду дзяржаўную зямельную маемасьць (З. З. БССР 1927 г., № 40, арт. 218) устаноўлен адміністрацыйны парадак скасаваньня гэтых дагавораў.

Пры выкананьні паказанай пастановы раённыя выканаўчыя камітэты робяць шэраг няправільнасьцяй. Арэндныя дагаворы касуюцца па рэзалюцыі загадчыка зямельнай часткі і прытым бяз усякага высьвятленьня тых страт і нескарыстаных выдаткаў, на сплату якіх арандатар мае права. Не зварочваецца пры скасаваньні дагавораў увага на патрэбу лічыцца з сельска-гаспадарчым сэзонам, а таксама з зямельным забясьпечаньнем арандатараў.

Для зьнішчэньня ўсіх гэтых недахопаў Народны Камісарыят Земляробства прапануе раённым выканаўчым камітэтам наступнае:

1. Дагавары на арэнду дзяржаўнай зямельнай маемасьці мясцовага значэньня павінна скасоўвацца камісіяю, прадугледжанаю пунктам 5 памянёнай пастановы Цэнральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 27 кастрычніка 1927 г.

2. Пры скасаваньні дагавору адначасна павінна быць вырашана пытаньне пра разьмер, тэрмін і спосабы сплаты страт і нескарыстаных выдаткаў на палепшаньні ў арандаванай маемасьці, на якую сплату мае права арандатар.

3. Тэрмін скасаваньня дагавору трэба прыстасоўваць да сельска-гаспадарчага сэзону, гэта значыць арандатару даецца права на збор ураджаю ў даным годзе, а асобы, якім перадаецца ў працоўнае карыстаньне дзяржаўная зямельная маемасьць, могуць толькі зрабіць азімы пасеў з тым, каб ў будучым годзе поўнасьцю скарыстаць надзеленую зямлю.

4. Калі арандатар дзяржаўнай зямельнай маемасьці сам безьзямельны ці малазямельны, то адначасна з скасаваньнем дагавору павінна быць вырашана пытаньне пра надзяленьне яго зямлёю па ўстаноўленай норме, ці данадзяленьні да гэтай нормы з складу арандаванай ім зямлі, альбо ў другім месцы. Адабраньне ад арандатара зямлі ў такім разе не павінна рабіцца да тых пор, пакуль ня будзе яму дана магчымасьць распачаць скарыстаньне надзеленай у іншым месцы зямлі.

5. Тэрмін скасаваньня дагавораў на фруктовыя сады павінен прыстасоўвацца да канца фруктовага сэзону, каб калектывы і гаспаркі, якія надзяляюцца садам на падставе пастановы Савету Народных Камісараў за 28 сакавіка 1928 г., маглі распачаць карыстаньне адзначанаю маемасьцю з пачаткам вясны.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах **Я. Лабаноўскі.**

19 мая 1928 г.
№ 9.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

ПРА ЗЬМЕНУ ПАДСУДНАСЬЦІ СПРАЎ ЗЯМЕЛЬНЫМ КАМІСІЯМ І СКЛАДУ ІХ.

*Зямельным камісіям БССР.*

Пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 17 мая г. г. пра зьмену і дапаўненьне Зямельнага Кодэксу БССР разам з спрашчэньнем земляўпарадчага працэсу зьменен склад зямельных камісій і падсуднасьць ім спраў.

Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю прапануе зямельным камісіям сваячасна перайсьці да разгляду зямельных спраў паводле памянёнага закону, маючы на ўвазе, што на падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 14 мая 1927 г. (З. З. 1927 г., № 24, арт. 112) усе законы ўваходзяць у сілу праз 7 дзён пасьля іх апублікаваньня.

1. Перш-на-перш зямельным камісіям трэба аформіць назначэньне свайго складу. У паасобку старшыня раённай зямельнай камісіі і яго намесьнік назначаюцца раённым выканаўчым камітэтам з ліку яго сталых членаў. Той-жа камітэт зацьвярджае двух членаў зямельнай камісіі і столькі-ж кандыдатаў да іх з ліку сялян, выбраных у камісію раённым зьездам саветаў. Апроч таго, акруговы зямельны аддзел назначае членамі раённай зямельнай камісіі агранома і земляўпарадчыка і кандыдатаў да іх, узгадніўшы гэтае назначэньне з раённым выканаўчым камітэтам.

2. Акруговая зямельная камісія складаецца з старшыні, яго намесьніка і 6 членаў. Старшыня выбіраецца, а намесьнік яго з ліку членаў камісіі і іншыя члены назначаюцца акруговым выканаўчым камітэтам.

У склад членаў камісіі абявязкова ўключаюцца аграном, мэліаратар і земляўпарадчык. Частка членаў атрымоўвае плату па сваёй сталай пасадзе, а не па рабоце ў зямельнай камісіі. Іншыя-ж члены камісіі прадугледжаны штатам акруговага зямельнага аддзелу і ня могуць займаць другіх штатных пасад.

3. Разглядае зямельная камісія падсудныя ёй справы ў складзе 2 асоб: старшыні ці яго намесьніка і 2 членаў ці кандыдатаў да іх. Пры разглядзе спэцыяльных спраў—земляўпарадчых, водна-мэліарацыйных і лесаўпарадчых—адным з членаў павінен быць належны спэцыяліст з ліку назначанах у склад камісіі.

4. У пасяджэньні акруговай зямельнай камісіі, калі яна разглядае водна-мэліарацыйныя справы, у залежнасьці ад іх характару, мэліаратара на падставе арт. 219 Водна-Мэліярацыйнага Кодэксу можа замяніць па належнасьці гідратэхнік, торпмэйстар ці культуртэхнік.

5. Раённая зямельная камісія, апроч тых спраў, якія яна вырашала да гэтага часу, разглядае спрэчкі пра дзяржаўную зямельную маемасьць раённага значэньня і пра скасаваньне дагавораў на гэтую маемасьць, спрэчкі аб маемасьці членаў пры выхадзе іх з складу каляктываў, земляўпарадчыя праекты на ўсякую дзяржаўную зямельную маемасьць, праекты аб упарадкаваньні калектыўных гаспадарак, праекты адмежаваньня ляснога фонду і скаргі на іх. Усе нявырашаныя справы гэтых катэгорый акруговая зямельная камісія адразу-ж перадае па падсуднасьці на разгляд у раённыя зямельныя камісіі.

6. Пры разглядзе спраў пра падзелы сялянскіх гаспадарак, зямельныя камісіі кіруюцца распараджэньнямі, якія абмяжоўваюць падзелы і драбненьне гэтых гаспадарак, і дзеляць іх толькі ў выключных выпадках, прадугледжаных пастановаю Савету Народных Камісараў БССР за 10 красавіка 1925 г. пра прыпыненьне падзелаў сялянскіх гаспадарак (З. З. БССР 1925 г., № 24, арт. 220).

7. Праекты ўнутрыпаселішчнага і міжпаселішчнага земляўпарадкаваньня разглядаюцца раённаю зямельнаю камісіяю на месцы правядзеньня земляўпарадчых работ адначасна з паказаньнем праекту. З гэтай прычыны зямельная камісія павінна па запрашэньні земляўпарадчыка выехаць на месца для разгляду справы. Пасьля ўзгадненьня з земляўпарадчыкамі, якія працуюць у раёне, трэба загадзя скласьці плян выездаў, каб ня было перашкод у рабоце камісіі і земляўпарадчых партый.

8. Выезд на месца для разгляду праектаў, апроч пералічаных у папярэднім пункце, для зямельнай камісіі не абавязковы і робіцца ёю, калі ён патрэбен, з захаваньнем выданых інтрукцый пра парадак разгляду зямельных спраў.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Нам. Старшыні Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю
па Зямельных Справах **С. Тафеянка.**

31 мая 1928 г.
№ 10.

## 17. Аб становішчы і масавай рабоце нізавых саветаў.

Апошнія праведзеныя кампаніі на вёсцы: па самаабкладаньні, па загатоўках збожжа і сырцу, па распаўсюджваньні сялянскай пазычкі, пасеўная кампанія і інш. зьявіліся генэральнаю праверкаю становішча нашага нізавога савецкага апарату на вёсцы. Як у люстры адбіліся ўсе недахопы, памылкі і слабасьці працы саветаў, нягледзячы на агульны рост працаздольнасьці савецкага актыву і палепшаньне працы саветаў наогул. Спэцыяльная інструктарская праверка каля сотні сельскіх і местачковых саветаў і шэрагу раённых выканаўчых камітэтаў яскрава сьведчыць аб якасьці масавай працы саветаў і выканаўчых камітэтаў—гэтай галоўнай задачы ў савецкім будаўніцтве.

Даючы агульную ацэнку становішча нізавых саветаў, мы павінны сказаць, што ў параўнаньні з мінулымі гадамі мы маем значныя дасягненьні, як у сэнсе разгортваньня масавай працы, гэтак і палепшаньня практычнай дзейнасьці ўсяго нашага нізавога савецкага апарату. Сельскія і местачковыя саветы ў большасьці сваёй сталі сапраўднаю і асноўнаю формаю аб'яднаньня бядняцка-серадняцкіх мас сялянства навокал вырашэньня галоўнейшых культурна-гаспадарчых пытаньняў жыцьця вёскі; з пашырэньнем правоў нізавых савецкіх органаў, апошнія значна прыблізіліся да насельніцтва, палепшылася яго абслугоўваньне. Значна разгарнулася масавая работа саветаў у сэнсе больш рэгулярнага склікаьня пленумаў саветаў, выканаўчых камітэтаў; павялічылася актыўнасьць удзельнікаў на пленумах, значна павялічыўся ўдзел жаночага і бедняцка-серадняцкага актыву ў рабоце пленумаў саветаў і выканаўчых камітэтаў.

Інтарэсы беднаты, апроч некаторых выпадкаў, правільна адбіваюцца ў пастановах сельскіх, местачковых саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў. Павялічаная сетка нацыянальных саветаў забясьпечвае абслугоўваньне гаспадарча-культурных запатрабаваньняў нацыянальных меншасьцяй. З партыйцаў, камсамольцаў, батракоў, сялянскай беднаты і жанчын-актывістак выкаваліся за гады ад Кастрычнікавай рэвалюцыі шэрагі лепшых савецкіх працаўнікоў, якія, зразумела, праводзяць дырэктывы Партыі і мерапрыемствы Савецкай Ўлады ў штодзённай масавай і практычнай сваёй працы. Усё гэта ёсьць бясспрэчныя факты агульнага становішча саветаў на сёньняшні дзень.

Разам з дасягненьнямі мы павінны мець на ўвазе шэраг дробных і буйных недахопаў у масавай працы саветаў, якія нам трэба ліквідаваць.

Мы ведаем, што ў гэтым годзе ў цэлым шэрагу саветаў, на жаль, былі правалены сельска-гаспадарчыя мерапрыемствы Савецкай Ўлады (самаабкладаньне, пазычка), толькі дзякуючы слабасьці, а часамі поўнай адсутнасьці масавай працы саветаў сярод сялянства. І наадварот, у тых мясцох, дзе саветамі ўцягнуты ў савецка-грамадзкую працу шырокія гушчы сялянства, там усе загады Савецкага Ўраду па ўсіх кампаніях праводзіліся з посьпехам.

Нажаль, мы маем яшчэ такія саветы дзе пленумаў ня было ад таго часу, калі выбіраліся прэзыдыум, старшыня і сакратар савету. Гэта азначае, што ў такіх саветах ня было пленумаў каля паўтары гады. Напрыклад, Чачавіцкі Сельскі Савет, які зьбіраецца раз у 52 тыдні і Дубенскі Сельскі Савет, які склікае прэзыдыум адзін раз у 6 месяцаў, а пленум праз год. У некалькіх саветах прэзыдыумы склікаліся праз 13 тыдняў, а пленумы праз тры-чатыры месяцы. Гэтыя факты гавораць аб нядбайнасьці, безадказнасьці кіраўнікоў адпаведных саветаў і аб недастатковасьці кантролю вышэйшых за іх савецкіх органаў. Слаба працуюць камісіі пры сельскіх саветах наогул, а там, дзе масавая праца не вядзецца, дзе пленумы падмяняюцца ў працы верхавінаю савету, там зусім камісіі ня вядуць ніякай працы і толькі існуюць на пратаколе.

У Несінскім Сельскім Савеце з 15 членаў с/с. у камісіях працуюць толькі тры, нягледзячы на абавязковы ўдзел кожнага члена савету ў працы камісіі.

У некаторых саветах наглядаецца слабае кіраваньне сходамі; сельскія саветы ў шэрагу выпадкаў знаходзіліся з боку, калі сходы вырашалі важнейшыя пытаньні гаспадарча-культурнага будаўніцтва вёскі. Слабым месцам у галіне масавай работы амаль усіх саветаў зьяўляецца справаздачнасьць іх перад выбаршчыкамі; справаздача савету ў большасьці выпадкаў паасобнымі дэпутатамі робіцца толькі ў час перавыбараў. Пры гэтым зьмест справаздач часта не адбівае практычнай работы саветаў, не высьвятляе таго, што зроблена саветамі ў справе выкананьня наказу вырабшчыкаў. Правяраючы працу саветаў у справе падрыхтоўкі пытаньняў, вырашэньня іх, плянавага разгляду і выкананьня пастаноў і загадаў, знаходзім у вялікай колькасьці саветаў нездавальняючае становішча. Частка рэвізійных камісій пры саветах амаль што не вядзе належнай працы не знаёміць насельніцтва вёскі з матар'яльна-грашовым становішчам і работаю саветаў. У масавай працы саветаў трэба лічыць недахоп канкрэтнага кіраўніцтва, жывога, а не пісьмовага інструктаваньня.

Таму, ня гледзячы на станоўчыя дасягненьні ў масавай працы саветаў, пры значных недаходах у шэрагу месц у працы саветаў, мы ня можам супакоіцца і сказаць, што ўсё і ўсюды добра. Сучаснае становішча саветаў, пры яшчэ недастатковасьці разгортваньня ўсімі саветамі масавай працы, ня можа забясьпечыць поўнае і пасьпяховае вырашэньне ўсіх задач, якія пастаўлены Партыяю перад саветамі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва. Патрэбны рашучыя захады для ўзмацненьня дзейнасьці саветаў, для ўцягненьня сялянскага актыву ў савецкую і грамадзкую працу.

Усё ўзрастаючая актыўнасьць рабочых і бедняцка-серадняцкіх мас вёскі патрабуе ад саветаў чуткасьці, дзелавітасьці, лепшых форм і мэтадаў скарыстаньня гэтай актыўнасьці для сацыялістычнага будаўніцтва. У практычным вырашэньні пытаньняў па калектывізацыі сельскай гаспадаркі, каапераваньні насельніцтва, культурнага будаўніцтва, змаганьня з бюракратызмам і злачыннасьцю,—саветы і выканаўчыя камітэты павінны быць беспасрэдна зьвязаны з актывам і шырокімі коламі ўсяго насельніцтва. Бяз шырокага ўдзелу працоўных мас мы ня зможам з посьпехам вырашыць пастаўленых задач, як ужо ня раз мы бачылі пры правядзеньні розных палітычных і гаспадарча-культурных кампаній сярод насельніцтва.

Таму, ўсялякія спробы паасобных кіраўнікоў-бюракратаў, якія імкнуцца замяніць калектыўна-масавую працу сваім асабістым адміністраваньнем, павінны самім савецкім актывам ліквідавацца без

спазьненьня. Тыя старшыні сельскіх і местачковых саветаў, якія па паўгода, па году не склікаюць пленумаў саветаў, ня кіруюць працаю камісій, ня вядуць масавай савецкай працы, павінны несьці адказнасьць перад выбаршчыкамі і вышэйшымі за іх органамі, як за самае вялікае злачынства ў парушэньні савецкіх законаў, савецкай дэмакратыі. Працоўныя масы і выканаўчыя камітэты не павінны дапусьціць замест савету—масавай арганізацыі дыктатуры пралетарыяту—існаваньня старшынь сельскіх саветаў без працы саветаў. Нам патрэбна праца ўсяго савету, а не аднаго старшыні ў форме былога старасты, ці соцкага. Апарат савету, яго прэзыдыум ёсьць толькі выканаўчы орган усяго савету выбаршчыкаў, праз які шырокія масы актыву кіруюць справамі. Таму якасьць работы саветаў вызначаецца тым, наколькі перш за ўсё добра пастаўлена ў іх масавая праца. Утвораныя камісіі пры сельскіх саветах павінны працаваць як па сваёй уласнай ініцыятыве, гэтак і па даручэньні саветаў. Пленумы саветаў павінны абавязаць прэзыдыумы, каб усе важнейшыя пытаньні будаўніцтва вёскі разглядаліся прэзыдыумамі пасьля прапрацоўкі іх у камісіях. Трэба дабіцца нармальнага становішча, каб прапановы камісій і паасобных членаў іх абмяркоўваліся прэзыдыумамі сельскіх саветаў самым уважлівым чынам.

Кіраўнікі саветаў і выканаўчых камітэтаў—прэзыдыумы, павінны забасьпечыць поўнае ажыцьцяўленьне лёзунгаў Партыі аб крытыцы і самакрытыцы ў рабоце на пленумах, прэзыдыумах і сельскіх сходах. Выпадкі рэпрэсіі і застрашваньняў не павінны мець месца ў дачыненьні да крытыкуючых, бо толькі праз крытыку, дзелавое і ўсебаковае абмеркаваньне пытаньняў мы зможам правільна і з посьпехам вырашыць задачы. Зьнішчаючы недахопы, бюракратызм, нядбайнасьць,—уцягнем шырачайшыя колы працоўных у гаспадарча-культурнае будаўніцтва нашай краіны.

Усякі „саветчык“, які зазнаўся і не жадае па савецкаму працаваць, павінен ведаць тое, што яго выбаршчыкі могуць адклікаць і замяніць іншым таварышом, не чакаючы перавыбараў. Уся праца саветаў, у якіх-бы яна ўмовах не праходзіла, знаходзіцца пад кантролем працоўных мас. Працоўныя масы рабочых і сялян, ідучы за Камуністычнаю Партыяю, дапамагалі і будуць дапамагаць саветам у іх дзейнасьці, яны зьнішчалі, будуць зьнішчаць і зьнішчаць усе шкодныя зьявішчы, якія сустракаюцца ў працы паасобных саветаў і паасобных савецкіх працаўнікоў.

Масавасьць, плянавасьць і рэгулярнасьць у гаспадарча-культурнай працы саветаў—вось галоўныя бліжэйшыя задачы. У гэтай справе трэба дапамагчы ўсім саветам з боку выканаўчых камітэтаў інструктаваньнем.

**А. Хацкевіч.**

2 чэрвеня 1928 г.
г. Менск.

---

